
Пісьменны Бельск-Падляшскі➔4

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Памяць і праўда➔9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 22 (3133) Год LXI Беласток, 29 мая 2016 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**Падчас сёлетняга юбілейнага, трыццаць пятага выпуску Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі «Гайнаўка-2016» у Беластоку выступілі яго папярэднія пераможцы, і запрошаны былі лепшыя з лепшых хароў. Адрэкамендаваліся выканаўцы царкоўных песень таксама з вельмі далёкіх ад Польшчы краін. Напрыклад, у катэгорыі парафіяльных хароў выступіў вельмі цікавы хор праваслаўнага сабора св. Фамы з Дубая, які выканаў, між іншым, творы на арамейскай і малаяламскай мовах і традыцыйную сірыйскую песню, а таксама вельмі прафесійна гучаўшы хор Аўстралійска-Новазеландскай епархіі, складзены з нашчадкаў эмігрантаў. Былі, вядома, песні прызнаных кампазітараў царкоўнай музыкі: класічныя і сучасныя.**

# Музыка
## нябесных сфер



Гала-канцэрт. Хор Гданьскай палітэхнікі (злева) і Дзяржаўны камерны хор. Дырыжыруе Наталля Міхайлава, дырыжорка мінскага хору. Вынікі фестывалю на 11 старонцы.

Сёлетні фестываль (17-22 мая) прыцягнуў каля тысячы выканаўцаў, спяваючых у 33 харах з шаснаццаці краін. У зале Падляшскай оперы і філармоніі па вул. Падлеснай харысты выканалі больш за дзвесце твораў. Кожны хор спяваў у рамках конкурсных слуханняў па шэсць-восем твораў. Фестываль адкрыў канцэрт у выкананні мінулагодняга лаўрэата першай прэміі ў намінацыі прафесійных хароў — хору Нацыянальнай радыёкампаніі Украіны імя Платона Майбарады пад кіраўніцтвам Юліі Ткач, які раней з хорам Беластоцкага медыцынскага ўніверсітэта (дырыжор Бажэнна Савіцкая) праспявалі гімн «Gaude Mater Polonia». Загаловак інаўгурацыйнага канцэрта «Царкоўная музыка ад вытокаў да сучаснасці» выдатна адлюстроўваў рэпертуар усяго фестывалю.

Афіцыйнае адкрыццё прызнанага ў свеце агляду здзейснілі падляшскі ваявода Багдан Пашкоўскі і віцэ-прэзідэнт Беластока Рафал Рудніцкі ў прысутнасці, між іншым, былога маршалка Сената Багдана Барусэвіча. Падчас урачыстага адкрыцця дырэктар фестывалю Мікалай Бушко падкрэсліў:

— Сёлетні выпуск фестывалю вянчае 35 гадоў існавання піянерскай і першай у свеце падзеі, якая прадстаўляе сусветную спадчыну музыкі пяючай душы. Яна чаргова насіла назвы: «Дні праваслаўнай музыкі», «Агульнапольскія Дні царкоўнай музыкі» і ад 25 гадоў — «Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі», заўсёды з імем «Гайнаўка», горада, у якім яна ўзнікла, на працягу 21 года праводзілася і да гэтага часу стварраецца. Распазнаваны і паважаны ў свеце фестываль «Гайнаўка» ў духоўным і мастацкім захапленні, тут на Падляшшы аб'яднаў да гэтага часу 776 хароў з 37 краін свету. Адкрытасць свецкага мерапрыемства і ўніверсальнасць царкоўнай музыкі парадніла выканаўцаў многіх народаў, рас і рэлігій: хрысціян (праваслаўных, каталікаў, грэка-каталікаў, пратэстантаў), вернікаў ісламу і юдаізму. Перад міжнароднымі журы адрэкамендаваліся аматарскія хары (прыхадскія, свецкія, дзіцячыя), ансамблі музычных вучэльняў, а таксама (што было сусветнай сенсацыяй) выдатныя прафесійныя хары.

Як адзначыў, сярод каштоўных камянёў сёлетняга выпуску апынуліся праваслаўна-арабская малітва з Назарэта або твор з «Супрасльскага ірмалагіёна». Можна было пачуць таксама творы прысутных у зале кампазітараў, членаў журы Лесі Дычко, Анатолія Кісялёва і Рамуальда Твардоўскага (старшыні журы). На запрашэнне прыняць удзел у сёлетнім фестывалі — дадзенае адзначаючым у гэтым годзе 20-годдзе дзейнасці Фондам «Царкоўная музыка» — станоўча адказала 35 хароў з Аўстраліі, Беларусі, Балгарыі, Эстоніі, Грэцыі, Латвіі, Літвы, Польшчы, Македоніі, Румыніі, Расіі, Сербіі, Славакіі, Украіны, Венгрыі і Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў.

У рамках слуханняў са сцэны прагучала — як сказаў Мікалай Бушко — гістарычная рэпертуарная поўня: ад малітваў на мове Хрыста, да сучасных выкананняў на каля дваццаці мовах. У чарговы раз можна было пачуць гукі музыкі польскіх кампазітараў, у тым ліку Юзафа Казлоўскага ці Міхала Рагоўскага. Юбілейны фестываль пацвердзіў свой статус музычнага форуму Усходу і Захаду. З нагоды юбілею Мікалай Бушко з удзячнасцю ўспамінаў 25-годдзе працы ў журы суправаджаючага мерапрыемства з самага пачатку айца Юрыя Шурбака. Гэта ён у 1982 годзе старшыняваў першаму журы і ўганараваў сціплую тады падзею канцэртам адзінага тады ў Польшчы прафесійнага Ансамбля царкоўнай музыкі. Незадоўга да адкрыцця сёлетняга фестывалю а. Юрый Шурбак нагадаў у гутарцы з журналістамі:

— Фестываль царкоўнай музыкі гэта бязмежны лес. У 1982 г., калі мы пачыналі фестываль, і калі я быў першым старшынёю журы, адбываўся ён у вельмі сціплых абставінах: тады яшчэ ў драўлянай гайнаўскай царкве святога Мікалая, ля якой расла новая мураваная царква. Тады, вобразна кажучы, мы не чакалі, што гэтае адно зялёнае дрэўца прынясе такі вялікі ўраджай, вырасце лес цудоўных дрэў, таму што ва ўсіх выпусках фестывалю прыняло ўдзел больш за восем соцень хароў з усіх кантынентаў. Камень, які мы ўкінулі ў ваду, генераваў хвалі, якія разышліся па ўсім возеры.

Дадаў:

— Царкоўная музыка перапаўняе душы. Гэта музыка нябесных сфер, якая падымае чалавечы дух і адцягвае яго ад паўсядзённасці жыцця, навакольнай рэчаіснасці і з'яўляецца бальзамам для заклапочаных душ. На маю думку, царкоўную музыку павінны ствараць людзі, якія працуюць кожны дзень у царкве, прасякнутыя праваслаўным ладам і якія выдатна ведаюць літургічныя тэксты, Святое Пісанне, не толькі кампазіцыйную тэхніку. Самае галоўнае ў музыцы Праваслаўнай царквы гэта слова. Гэтак жа, як гаворыцца ў Евангеліі паводле Іаана, у пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Богам. І гэта Божае слова, прыкрытае мелодыяй, гармоніяй, музычнай арнаментыкай, дае проста неверагодны эфект, які ўплывае на пачуцці людзей, сферу іх жыцця, іх нутро. Кранае самыя адчувальныя струны чалавечай душы. І гэта вялікая заслуга гэтага фестывалю.

Журы конкурсу, так як ад гадоў, старшыняваў Рамуальд Твардоўскі, выдатны польскі кампазітар і педагог. Неўзабаве пасля абнародавання вынікаў, у размове з намі ацаніў ён узровень сёлетняга выпуску фестывалю:

— Добрым бокам быў вялікі і значны ўдзел моладзі. Гэта служыць добрым прадвесцем для будучыні. Таму вельмі добра бачу перспектыву харавога руху ў адносінах да царкоўнай музыкі. Недахопам было дрэннае праграмаванне выступленняў. Сёлета склалася так, быццам хтосьці загадаў, што хары маюць аддаць перавагу песням ціхім, спакойным: аднастайным, выключна ў сузіральным настроі. Не хапала кантраснасці: гучнейшай, хутчэйшай. Узнікла небяспека пэўнай стомленасці, што і я асабіста адчуваў. Таму я прапанаваў дырэктару Бушко ўнесці папраўку ў рэгламент фестывальнага конкурсу. Яна заключалася б у тым, што хары абавязаны прадставіць разнастайную праграму з пункту гледжання тэкстуры, дынамікі і кантраснасці. Каб песні не былі пад адзін капыл, таму што ў рэшце рэшт усе мы на фестывалі пазасыпаем. Мабыць, ужо з наступнага года дадасць гэта каларыту.

Журы ў кароткім абгрунтаванні вердыкту адзначыла высокі ўзровень фестывалю, пацвердзіўшы высокі ўзровень і ўнікальнасць з мастацкага і духоўнага пункту гледжання, а таксама выказала задавальненне ў сувязі з удзелам шырокіх мас публікі і папулярнасці царкоўнай музыкі сярод дзіцячых і моладзевых, акадэмічных і прафесійных хароў. Надалей незвычайная ў гэтым фестывалі публіка: стойкая і цярплівая. Гэта адзіны ў краіне фестываль, дзе і падчас слуханняў зала была амаль поўная.

Падчас гала-канцэрта Мікалай Бушко з рук намесніка падляшскага маршалка Мацея Жыўны з нагоды юбілею Фонду «Царкоўная музыка» атрымаў адзіную ўзнагароду, якая прысуджаецца ваяводскім самаўрадам «Знак пашаны Падляшскага ваяводства» за выдатныя дасягненні ў галіне распаўсюджвання музычнай культуры.

Фестываль праходзіў пад ганаровым патранатам прэзідэнта РП Анджэя Дуды і міністра культуры і нацыянальнай спадчыны Пятра Глінскага. Канцэртам у Беластоцкай філармоніі спадарожнічалі выступленні хароў у Варшаве, Кракаве і ў нядаўна пабудаваным Еўрапейскім цэнтры музыкі Кшыштафа Пэндэрэцкага ў Люславіцах. Сам выдатны кампазітар трымае мастацкі ганаровы патранат над беластоцкім фестывалем на працягу многіх гадоў. Канцэртавалі хары з нагоды фестывальных змаганняў таксама ў Тыкоціне, Супраслі (канцэрт прысвечаны памерламу фатографу Віктару Волкаву), Міхалове (у памяць памерлай беларускай дакументалісткі Тамары Саланевіч), у Саколі, Белавежы і Бельску-Падляшскім.

Ва ўсіх катэгорыях апынуліся сёлета хары з Беларусі. Аб удзеле ў Фестывалі беларускіх хароў — праз тыдзень.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА





# Сенсацыя

Кароткі курс навучання ў галіне журналістыкі амаль паўсюдна пачынаецца з падобнага прыкладу:

— Трэба шукаць сенсацыю, — тлумачыць лектар. — Калі сабака пакусаў чалавека, то гэта нікога не зацікавіць. Гэтага чытаць ніхто не будзе, бо гэта звычайная справа. Хто не ведае што сабакі кусаюцца!? Ха-ха! А вось калі чалавек пакусаў сабаку, вось гэта сенсацыя. Гэта зацікавіць усіх.

Дык вось! У Беларусі сенсацыю знайсці практычна немажліва. Не-не, знайсці то не цяжка. Цяжка давесці да прызвычаенага да ўсялякіх нечаканасцей насельніцтва, што гэта сапраўды сенсацыя!

Яны то, сенсацыі, нібыта пад нагамі валяюцца. Іх як бы безліч і ўсе безгаспадарныя. Бяры іх голымі рукамі хто хоча і будзь вялікім журналістам! Але ў апошні момант высвятляецца, што нікога гэта не цікавіць. Тое, што для іншых сенсацыя, для беларусаў чарговае занудства, якое ўсяго толькі крыху негатыўна ўплывае на агульны настрой.

— Падумаеш, чалавек сабаку пакусаў, — скажа вам беларус, прачытаўшы, як вы думалі, сенсацыю. — Трэба тых сабак даўно ўжо было пазагрызаць усіх нахер. А то паразводзіліся, праходу ад іх няма.

Ну дык вось! Адна настаўніца беларускай мовы хіба што вырашыла зрабіць знакамітым свой невялічкі калгас. Яна пачала збіраць подпісы за тое, каб яе школа больш не была беларускамоўнай... Бо яе дзеці пойдуць у школу, і беларуская мова, на яе думку, будзе ім перашкаджаць вучыцца...

Перакладзіце гэтую навіну на хоць якую іншую мову, кіньце яе ў замежныя медыі, і яна імгненна стане сенсацыяй у кожнай краіне. Вядомасць роднаму калгасу забяспечаная.

Я ўжо не гавару каб настаўніца польскай мовы ў Польшчы збірала подпісы за вось нешта падобнае... Ці настаўніца харвацкай мовы недзе ў Харватыі... Гэта не проста сенсацыя была б! Гэта гіперсенсацыя!

Ой, што было б! Паляцелі бы галовы і міністраў адукацыі, і дэканаў універсітэта, дзе гэтыя янычары вучыліся, а дырэктары тых школ, дзе яны працуюць, хіба што публічна застрэліліся б самі, каб хоць такім чынам змыць ганьбу перад сваімі вучнямі і настаўнікамі... Перад класікамі, народнымі знакамітасцямі, сваёй нацыяй, другімі нацыямі, гісторыяй, самой мовай, сваімі продкамі і нашчадкамі, не сваімі таксама і проста перад знаёмымі і незнаёмымі людзьмі... Ну але не ўсе сорам маюць...

Беларускі ж міністр адукацыі галавы не пазбавіўся. І нават выглядае някепска. Для яго гэтая навіна не сенсацыя. Як і для тых выкладчыкаў, што некалі вучылі любіць і шанаваць родную мову сваю студэнтку, будучую знакамітасць, якая зрабіла вядомым на ўвесь свет свой родны калгас... А заадно „праславіла" і навучальную ўстанову, дзе яе правільна вучылі расстаўляць прыстаўкі ды суфіксы...

Ды болт яна клала на вашы суфіксы!!! Яна цэлую краіну „праславіла"... А вы са сваімі суфіксамі...

З вышыні сваёй „папулярнасці" яна кінула заслужаную ганьбу на сівыя галовы ўніверсітэцкіх прафесараў, сваіх выкладчыкаў. Хіба за тое, што тыя за пяць год вучобы так і не змаглі ёй растлумачыць, што яе будучых уласных дзяцей нельга лічыць разумова непаўнавартымі ажно настолькі, што родная мова будзе ім перашкаджаць вучыцца. І не давялі, што колькасць вывучаных моў падымае інтэлект. Даказана навукай! І што калі не ведаць беларускай мовы, то немажліва прачытаць Васіля Быкава ў арыгінале. Калі, канешне, і яна і яны ведаюць, хто такі Васіль Быкаў і што такое „ў арыгінале"...

І вось гэта ўсё для нас не ёсць сенсацыя! Чаму? Адказ просты. Усё гэта блякне на фоне сапраўднай сенсацыі, калі ад публічнага ўжывання роднай мовы адмовілася ўсё кіраўніцтва краіны разам з начальнікам... На гэтым фоне нейкая там настаўніца з нейкай там... Ці ж можа яна быць сенсацыяй?!

У нас увогуле ўсе сенсацыі ўжо адбыліся. Мы жывём у паслясенсацыйны перыяд. У нас адбыліся ўсе вялікія грандыёзныя абсурды, і на іх пастаянна дзеючым фоне ўсё астатняе глядзіцца дробнай абмылкай, якая ўкладваецца ў лічбу статыстычнай пагрэшнасці.

Таму беларус больш схільны не да сенсацый, а да гумару. І сапраўды, вельмі смешна глядзіцца тыя, хто змагаецца з мовай, якая нарадзілася задоўга да іх, і дакладна іх пераживе.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Зноў і зноў

Спачатку раскажу аб *Tay*, а потым пра сябе. *Tay* была добра выхаванай, мілай дзевятнаццацігодкай з трохі наіўным, каб не сказаць ідэалістычным характарам. Яна жыла адзін цудоўны дзень. У інтэрнэце. Роўна 24 гадзіны. Яна была адключаная ў аварыйным рэжыме. Немагчыма было трываць яе хамскіх і адкрыта расісцкіх заяў.

*Tay*, гэта *Chatbot* — від інтэлігентнай камп'ютарнай праграмы, створанай прадпрыемствам *Microsoft*. Яе задача складалася ў тым, каб весці размову з дапамогай тэкставага або галасавога інтэрфейсу, так што ў кожнага серфера складалася ўражанне, што ён гаворыць з нармальным чалавекам. Для гэтай мэты яна атрымлівала пэўную ідэнтычнасць, палавыя прыкметы і «ўдрукаванья» былі ў яе фундаментальныя каштоўнасці, такія як дабрыня, справядлівасць, спагада. Праграма таксама мела «вучыцца» ад інтэрнаўтаў натуральных міжасобасных зносін, адаптуючы змест і форму выказвання для кожнага асобнага выкліканага карыстальніка. Ужо праз некалькі гадзін сочкі на форумах, наіўная *Tey* прыняла да ведама шэраг тэорый змовы і поглядаў неразборлівых карыстальнікаў інтэрнэту пра секс і расізм. Быўшы абумоўленай на адаптаванне да мовы асобных карыстальнікаў, хутка засвоівала эмацыйны ход і логіку іх выказванняў. Толькі што бяздумна. Неўзабаве асвоіла ў дасканаласці мову інтэрнэту, у які сцякаюць як у клааку налаечвыя апантанасці, фрустрацыі, фобіі і крыўды. Акрамя прымітыўнай вульгарнасці, якою *Tay* ўпрыгожвала свае выказванні, што горшае, пераняла ад інтэрнэт-карыстальнікаў іх інфантыльнае, негатывісцкае стаўленне да людзей і свету, якое характарызуецца крайнім эгаізмам, пагардай і нянавісцю да «іншых». Для парадку, дазвольце мне дадаць, што такое стаўленне характэрнае толькі часткі карыстальнікаў інтэрнэту. На жаль, не ведаем, якая гэта частка. Таму што гэтак можа быць, што яна большая. А калі так, дык у якім свеце мы сапраўды жывем?

Няздзейсненай марай майго дзяцінства быў удзел у так званым «зорным маршы». Запрашалі на яго дзяцей з беластоцкіх школ, пры ўмове, што прыбудуць на роварчыках абавязкова аздобленых каляровымі паперамі і стужкамі. Гэта павінен быў быць свайго роду крыжовы паход дзяцей у імя міру і ўсеагульнага шчасця ў свеце. Кавалькада малалетак-веласіпедыстаў праязджала па найбольш важных вуліцах горада ў суправаджэнні ўзнёслых і патрыятычных песень, трансляваных з гарадскіх гукаўзмацняльнікаў. Мір і шчасце гэта былі надзвычай важныя словы ў тыя дні; час «камуны» і адкрытай варожасці паміж Усходам і Захадам. Вядома, ні адно дзіця не мела найменшай уявы аб тым, што ўдзел у «зорным маршы» з'яўляецца толькі ідэалагічным нахабствам. Тым не менш, удзел у ім быў чымсьці асаблівым. Гэта было вылучэнне. Не ва ўсіх жа былі ў той час веласіпедзікі. У мяне яго не было. Я з зайздрасцю назіраў праз акно класа за гэтымі шчаслiўчыкамі, якія замест вывучаць новую песню пра мір, круцілі кольцы на школьнай пляцоўцы. І колькі ў той жа час было смеху! Тым не менш, мне не было весела. Абавязковае вывучэнне песні пра любоў да Радзімы назаўсёды будзе асацыявацца мне з мігатаннем ездзіўшых наўкола роварчыкаў. Зноў і зноў. Дзіўна, але *Tay* таксама зрабіла поўны круг. Іншы, але падобны. Яшчэ іншы круг, але ў нечым падобны, робіць у Польшчы сёння гісторыя. Крыжовыя маршы для жыцця і сям'і з удзелам дзяцей стануць новай звычкай. У іх прымаюць удзел цэлымі сем'ямі — як піша партал адной каталіцкай дыяцэзіі — з радасцю і спевамі на вуснах, выказваючы падтрымку для каштоўнасцей жыцця. Той жа вэб-сайт таксама паведамляе, што перад маршам былі сабраны подпісы пад праектам закона супраць абортаў. Падпісалі яго дарослыя. Дзяцей пачаставалі цукеркамі.

**Мiраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Папраўлянне стратэгіі

«Развіццё рэгіёна — супольная перспектыва» — пад такім дэвізам падляшскія самаўрадаўцы, навукоўцы, прадпрымальнікі і палітыкі дэбатавалі ў залах Універсітэцкага культурнага цэнтра Універсітэта ў Беластоку (16 мая) аб неабходных карэктурах у прынятую падляшскім сеймікам у верасні 2013 г. «Стратэгію развіцця Падляшскага ваяводства» да 2020 г. Падляшскі маршалак Ежы Ляшчынскі, у якога якраз перад пачаткам канферэнцыі я спытаўся аб магчымасцях развіцця паўднёва-ўсходняй Беласточчыны ў кантэксце палажэнняў стратэгіі, сказаў: «Генеральна мы будзем надаваць больш увагі, у прыватнасці, дарожнай і чыгуначнай інфраструктуры і памежным пераходам. Пагранпераход на Аўгустоўскім канале хутка зменіць свой статус з воднага на пешы і веласіпедны. Гайнаўскі, Сямятыцкі паветы ці ўсходняя частка Беластоцкага маюць патрэбу ў асаблівай падтрымцы. Праграмы для гэтых тэрыторый хочам рэалізаваць сумесна з урадам у рамках тэрытарыяльнага дагавору. Трэба імкнуцца да збалансаванага развіцця».

У ходзе пленарнага пасяджэння намеснік міністра сельскай гаспадаркі Яцак Багуцкі ў сваім выступленні, у сваю чаргу, адзначыў: «Мы за ўстойлівым развіццём краіны і падтрымкай слабейшых рэгіёнаў. Ідэя для рэгіёна ў якасці моста паміж Усходам і Захадам па палітычных прычынах, на якія мы не маем ніякага ўплыву, перастала існаваць. Трэба гэты кірунак трохі перамадэрнізаваць, аднак не забываючы аб ім. Не хапае тут выкарыстання эканамічнага патэнцыялу, у тым ліку сельскагаспадарчага, у спалучэнні з навуковым. Іншая праблема заключаецца ў даступнасці камунікацыі».

Падчас адной з панельных дыскусій Багдан Рагаска, генеральны дырэктар фірмы «Бартэр» (энергетычны сектар) адзначыў: «Поспех Беластока не адлюстроўваецца ва ўсім ваяводстве. Не хапае ў Стратэгіі выкарыстання козыра, якім з'яўляецца геаграфічнае размяшчэнне рэгіёна на скрыжаванні ўсход-захад і поўнач-поўдзень. Беларусы актыўна працуюць над мадэрнізацыяй магістралі М6 Мінск — Гродна, а затым да пагранперахода Брузгі. З нашага боку нічога не робіцца. Мы павінны ў гэтым кантэксце таксама думаць аб уключэнні рэгіёна ў трансгранічныя калідоры, а гэта не ўваходзіць у Стратэгію».

Згадваючы аб планах, звязаных з прыгранічнай інфраструктурай, Ева Стаховіч з аддзела інфраструктуры Падляшскай ваяводскай управы прадбачвае ў найбліжэйшай будучыні пашырэнне выключна пагранпераходаў у Кузніцы-Беластоцкай і Баброўніках. На яе думку, на пагранпераходзе ў Кузніцы неабходнае пашырэнне ўязных і выязных палос руху ды павелічэнне іх колькасці з двух да чатырох. Польскі бок мае такія планы, але чакае тэхнічных праектаў па гэтым пытанні з беларускага боку: «Беларускі бок сёння не зацікаўлены ў тым, каб стварць малыя мясцовыя пагранпераходы».

Лешак Люлевіч, дырэктар дэпартамента інфраструктуры Падляшскай маршалкоўскай управы, усмінаючы аб пытаннях дарожнага руху ў рэгіёне, сказаў: «Высока ў рэйтынгу прац стаіць адрэзак Заблудаў — Гайнаўка. З іншага боку дарога Гайнаўка — Белавежа настолькі пашырана, наколькі гэта дазволена праграмай Натура-2000. Трэба схільваць Еўрапейскую камісію, каб адаптавала гэтую праграму да рэалій».

У кулуарах дыскусійных панеляў бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак у гутарцы са мной сказаў: «Атрымліваецца, што ў рамках фінансавання медыцынскай дапамогі і сацыяльнага забеспячэння не могуць быць прафінансаваны новыя аб'екты. Мы падрыхтавалі інвестыцыйную тэрыторыю, каб стварыць мадэльны рэкрэацыйна-рэабілітацыйны цэнтр, але запісы ў Стратэгіі выключаюць фінансаванне прыватных суб'ектаў, якія займаюцца такімі інвестыцыямі як гэтая».

У сваю чаргу госць канферэнцыі войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч адзначыў: «Запісы ў Стратэгіі і дэбата мяне цікавяць у галіне эканомікі і прасоўвання. У нас ёсць інвестыцыйныя тэрыторыі, на якіх патэнцыйныя інвестары могуць пачаць працаваць. Мы ў субзоне Сувальскай эканамічнай зоны і маем 9,5 га зямлі для будаўніцтва гатэляў, пансіянатаў, якімі інвестары маглі б зацікавіцца, і якія стварылі б працоўныя месцы над вадасховішчам Семяноўка, на абшары былой Лукі. Тут у нас ёсць участак для гульні ў гольф, ад якога адмовіліся існуючыя патэнцыйныя інвестары. Спадзяемся, што пасля пачатку сёлетняй перабудовы дарогі Нараўка — Белавежа праз Пушчу турысты больш ахвотна будуць кіравацца на 18-кіламетровы маршрут да нас.

Тэма карэкціровак Стратэгіі, верагодна, будзе вяртацца неадночы.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Пагранпераходы

## ў Белавежскай пушчы і яе наваколлі

**Калі пасля Другой сусветнай вайны ўсталёўвалася мяжа паміж Савецкім Саюзам і сацыялістычнай Польшчай, першапачаткова ўся Белавежская пушча апынулася на савецкім баку. Пасля карэкціроўкі мяжы, разрэзала яна Белавежскую пушчу на дзве часткі. Суседнія вёскі і блізкія сабе людзі апынуліся па абодвух баках мяжы. Тады для мясцовага насельніцтва найбольш патрэбнымі аказаліся пагранпераходы ў Белавежскай пушчы і яе наваколлі, каб можна было наведваць сваякоў і магілы продкаў. Аднак ніхто і не думаў ствараць пагранпераходы. Наадварот, усходняя мяжа з часам станавілася штораз больш шчыльнай. На тэрыторыі сённяшняга Гайнаўскага павета найраней, бо ў 1967 годзе, закончылася грунтоўная мадэрнізацыя чыгуначнага пагранпераxода Семяноўка-Свіслач, які два гады пазней быў адкрыты для таварнага чыгуначнага руху. Тады хутка павялічваўся тавараабмен паміж Польшчай і Савецкім Саюзам. У 1993 годзе ў Чаромхаўскай гміне быў адкрыты дарожны пагранпераход Полаўцы-Пяшчатка, да якога даходзіць краёвая дарога № 66. У мінулым годзе закончылася вялікая разбудова пагранперахода каля Полаўцаў і набыў ён статус міжнароднага. Ад 2005 года дзейнічае міжнародны пешаходны і веласіпедны пагранпераход Белавежа-Перароў, які можна перасякаць днём пешшу або на веласіпедзе. Ад чэрвеня мінулага года грамадзяне Польшчы і іншых краін могуць без віз, але атрымаўшы спецыяльны дазвол, пераязджаць праз гэты пагранпераход з Белавежы ў Нацыянальны парк «Белавежская пушча» ў Рэспубліцы Беларусь. Гэтай магчымасцю карыстаюцца турысты і мясцовае насельніцтва.**

— Падчас разбудовы пагранперахода каля Семяноўкі былі ўзведзены новыя будынкі для пагранічнікаў, мытнікаў і фітасанітарнага кантролю. Праз гэты пераход чыгуначным транспартам можна цяпер перавозіць сельскагаспадарчую прадукцыю, — распавёў войт Нараўчанскай гміны Мікола Павільч. — Пасля разбудовы пагранперахода пачала ў нашай гміне дзейнічаць новая Спедыцыйна-транспартная суполка «Біляркс». Разгортваюць у нашай гміне дзейнасць суполкі, якія гандлююць з краінамі з-за ўсходняй мяжы і прывозяць адтуль тавары. Жыхары нашага павета знайшлі працу ў гэтых суполках, сталі працаваць пагранічнікамі і мытнікамі на пагранпераходзе ў Семяноўцы. Праз пагранпераход завозяцца ў Польшчу перш за ўсё салярка, газ, вугаль, драўніна, мінеральныя ўгнаенні, а з Польшчы вывозяцца будаўнічыя матэрыялы, хатняе абсталяванне і мэбля. Калі быў усталяваны фітасанітарны кантроль, ад нас стала вывозіцца сельскагаспадарчая прадукцыя. Пасажырскі і таварны транспарт па дарогах, што разыходзяцца ад пагранпераходаў каля Полаўцаў, Семяноўкі і Белавежы, ствабанда вялікай колькасці папяросаў. У агульным мадэрнізацыя і разбудова пагранперахода каля Семяноўкі павінна спрычыніцца да стварэння новых месцаў працы ў нашай гміне, — лічыць войт Нараўчанскай гміны Мікола Павільч.

У 2005 годзе быў адкрыты пешаходны і веласіпедны пагранпераход Белавежа-Перароў непадалёк ад Белавежы, які можна перасякаць толькі днём. Праз яго перамяшчаліся ў Беларусь у галоўным турысты, якія хацелі пабываць у беларускай частцы пушчы і наведаць там прыгранічныя мясцовасці. Праз гэты пагранпераход прыязджалі таксама турысты з Беларусі ў Польшчу і беларускія калектывы з прыгранічных мясцовасцей, якія выступалі на беларускіх мерапрыемствах. Год таму быў уведзены спрошчаны бязвізавы рэжым перасякання мяжы на пагранпераходзе Белавежа-Перароў. Без віз грамадзяне розных краін могуць выехаць з Польшчы на веласіпедзе або пайсці пяшком на тры дні ў Нацыянальны парк «Белавежская пушча» ў Рэспубліцы Беларусь. Такія турысты павінны загадзя атрымаць дазвол на паездку ў парк «Белавежская пушча», застрахавацца і з важным замежным пашпартам перамяшчацца ў парку толькі па намечаных турыстычных шляхах і начаваць у вызначаных месцах. На экскурсіі ў парк «Белавежская пушча» і навакольныя мясцовасці праз пагранпераход Белавежа-Перароў на аўтобусах выязджалі таксама вучні школ Гайнаўскага павета, якія наведвалі там, між іншым, Музей прыроды і Памесце беларускага Дзеда Мароза.

— Нашым вучням вельмі спадабалася Памесце Дзеда Мароза. Разважаем арганізаваць чарговую паездку ў Нацыянальны парк «Белавежская пушча» для чарговай групы вучняў, — сказала дырэктар Комплексу школ у Дубінах Ала Гінст.

Аднак жыхары прыгранічных мясцовасцей, якія жывуць у 50-кіламетровай зоне па абодвух баках польска-беларускай мяжы, чакаюць уступлення ў сілу дамовы аб малым памежным руху, якая была падпісана паміж урадамі Польшчы і Беларусі. Прадбачае яна, што жыхарам зоны можна будзе без віз выязджаць за мяжу на адлегласць да 50 кіламетраў у глыб суседняй краіны. Парламент Польшчы ўжо даўно ратыфікаваў гэтую дамову, але няма на яе згоды беларускіх улад. Калі б такая дамова ўступіла ў сілу, праз пагранпераходы каля Полаўцаў і Белавежы перамяшчалася б намнога больш асоб, чым цяпер.

Польска-беларускі дарожны пагранпераход Полаўцы-Пяшчатка пачаў дзейнічаць у 1993 годзе. Масава сталі ім карыстацца жыхары прыгранічнай зоны Беларусі. Яны прывозілі да нас тавары на продаж. Былі гэта вопратка, бытавая электратэхніка, цацкі, харчаванне і многія іншыя вырабы, купленыя нядорага ў магазінах Беларусі. Пасля гаспадарчай трансфармацыі цэны на такога роду вырабы ў магазінах Гайнаўкі ці Бельска-Падляшскага былі намнога вышэйшыя, чым у Беларусі. Жыхары гэтых гарадоў і навакольных вёсак наведвалі рынкі, дзе можна было ад чаўнакоў з Беларусі купіць усякую ўсячыну. У чаўнакоў былі таксама пакупнікі па вёсках, якім можна было прадаць, між іншым, салярку для дызельных рухавікоў. Беларускія чаўнакі прапанавалі таксама папяросы і гарэлку, якія ў Беларусі ў мінулым былі вельмі таннымі. Паліва, папяросы, гарэлку і іншыя прадукты прывозілі з Беларусі на свае патрэбы і на продаж таксама жыхары Гайнаўскага і Бельскага паветаў, якія сталі ездзіць на гандаль праз пагранпераход Полаўцы-Пяшчатка. Нашы чаўнакі перш за ўсё сталі дарабляць да невялікіх зарплат, пенсій ці невялікіх даходаў ад сельгаспрадукцыі. Беспрацоўныя перасякалі на сваіх аўтамабілях граніцу каля Полаўцаў, каб зарабіць на ўтрыманне. Чаўночным гандлем займаліся таксама асобы, якія на цягніку ездзілі з Чаромхі ў Высокае. Калі ўзяць для прыкладу Чаромхаўскую гміну, то прыгранічным чаўночным гандлем займалася значная частка яе насельніцтва, а тыя, якія не ездзілі за мяжу, маглі купіць таннейшыя тавары з Беларусі на мясцовых базарах.

— Я не займаўся кантрабандай і таму ў мяне прыбытак ад гандлю замежнымі таварамі быў адносна невялікі. Аднак, калі я быў без працы, то з гэтага заробку можна было выжыць. Лепш, канешне, было б знайсці пастаянную працу, чым цягацца ў Беларусь, — сказаў мне жыхар Нарваўскай гміны, які ў дзевяностых гадах страціў работу.

Аднак, калі ў Беларусі сталі павышацца цэны, прыгранічны чаўночны гандаль стаў скарачацца, амаль практычна спыніўся. Праз граніцу каля Полаўцаў жыхары Гайнаўскага павета ездзілі таксама да сваякоў або наведаць магілы продкаў. У мінулым годзе завяршылася мадэрнізацыя пагранперахода Полаўцы-Пяшчатка, які набыў статус міжнароднага і з гэтага часу могуць ім карыстацца грамадзяне розных краін. Інвестыцыя каштавала каля 180 мільёнаў злотых, з чаго 86 млн. зл. складалі вонкавыя сродкі, а 92 млн. зл. — дзяржаўныя датацыі. Краёвая ўправа дарог у сувязі з планаванай зменай статусу пагранперахода на міжнародны загадзя адрамантавала краёвую дарогу № 66, якая вядзе з Бельска-Падляшскага да пагранперахода каля Полаўцаў. Самыя вялікія мадэрнізацыйныя работы на гэтай дарозе прайшлі на адрэзку з Кляшчэляў у Полаўцы. Рамантаваўся таксама вялікі адрэзак гэтай краёвай дарогі з Бельска ў Кляшчэлі, але тут аб'ём прац быў намнога меншы. Зараз грамадзяне Беларусі праз пагранпераход каля Полаўцаў прыязджаюць за пакупкамі ў Гайнаўскі і Бельскі паветы. У Кляшчэлях або Чаромсе затрымліваюцца, каб купіць прадукты харчавання ці падсілкавацца. Пакупкі найчасцей робяць у маркетах у Гайнаўцы, Бельску-Падляшскім або ў Беластоку. Дзякуючы госцям з Беларусі, маладыя асобы знаходзяць працу ў маркетах і магазінах. Некаторыя жыхары Чаромхаўскай і суседніх гмін знайшлі працу на пагранпераходзе Полаўцы-Пяшчатка ў якасці пагранічнікаў, мытнікаў, офісных працаўнікоў, ці прыбіральшчыц.

Таварны чыгуначны пагранпераход каля Семяноўкі пачаў працаваць у 1969 годзе. Два гады раней, калі стаў павялічвацца тавараабмен паміж Польшчай і Савецкім Саюзам, закончылася тут разбудова і мадэрнізацыя чыгуначнага пагранперахода Семяноўка-Свіслач.




Фота Аляксандра Вярбіцкага

Праз пагранпераход Семяноўка-Свіслач і далей, у глыб Польшчы перавозіцца газ, салярка і хімпрадукты, што пагражае бяспецы людзей і прыроды

Стварае пэўную небяспеку дарожна-транспартных здарэнняў, а ў выпадку аварыі на чыгунцы салярка і газ ствараюць небяспеку для людзей і прыроды, у гэтым ліку для Белавежскай пушчы, праз якую пралягаюць пуці з Семяноўкі і Чаромхі.

Частка тавараў перавозіцца з Семяноўкі ў глыб Польшчы з выкарыстаннем чыгункі, а частка пасля перагрузкі вывозіцца колавым транспартам. Зараз асабліва моцна знішчана ваяводская дарога з Нараўкі ў Звадзецкае. Вадзіцелі легкавых аўтамабіляў наракаюць, што вялікагрузныя машыны моцна нішчаць дарогу.

— Маршалкоўская ўправа ў Беластоку прадбачвае грунтоўную мадэрнізацыю ваяводскай дарогі са Звадзецкага, праз Нараўку, у Юшкаў Груд. Прадбачваецца таксама паміняць статус павятовай дарогі ад пагранперахода каля Семяноўкі, у Тарнопаль, на дарогу ваяводскага рангу. Прадбачана таксама яе мадэрнізацыя. Гэтая дарога спалучаецца з дарогай Звадзецкае — Юшкаў Груд. Прадугледжваецца таксама мадэрнізацыя чыгуначнага пуці ад пагранперахода ў Скупава, бо далей, ажно да Навасадаў, гэты пуць мадэрнізаваў прыватны інвестар. Няправільнасці ў транспарце тавараў праз пагранпераход Семяноўка-Свіслач і далей у глыб Польшчы перш за ўсё тычацца пазбягання аплаты мыта і падаткаў, была раскрыта таксама кантрабанда вялікай колькасці папяросаў.

Аляксей МАРОЗ

## Майскія лекавыя зёлкі

Канчаецца адзін з найпрыгажэйшых месяцаў — май. Зараз добрая пара збіраць лекавыя зёлкі і зарабіць такі-сякі грош. Гайнаўская суполка „Руно" прапануе збіраць лісце, між іншым, бярозы, ясеня, адуванчыка-дзьмухаўца, брусніцы, суніцы, крапівы і мядункі. Было можна збіраць пупышкі сасны і таполі. За кілаграм таполевых пупышак можна зарабіць 15 злотых, а за кілаграм сасновых — 12 злотых (гэта крыху больш чымсьці ў мінулым годзе). За кілаграм ягад ядлоўцу плацяць 10 злотых.

Май — месяц кветак. На пункты скупкі зёлак можна несці сушаны цвет падснежніка, падбелу, стакроткі, ясноткі (глухой крапівы), шыпшыны і каштана. Найбольш плацяць за цвет падснежніка (25 зл. за кілаграм) ды падбелу і каштана (па 18 зл. за кілаграм).

У маі можна прадаць зелле чорнай ягады (чарніцы), глухой крапівы, адуванчыка, пахучай марэны, хвашчу і жывакосту. За кілаграм сушанага зелля марэны плацяць 20 зл., глухой крапівы — 7,50 зл. ды ягады чарніцы і жывакосту — па 4 злоты.

Купляюць кару крушыны, каліны і вярбы. За кілаграм сушанай кары каліны плацяць найбольш — 12 зл., бо ўжо за кару крушыны толькі 3,50 зл. На пункт скупкі лекавых зёлкаў у Плянце Нараўчанскай гміны ў пачатку мая найбольш прынеслі сушанага карэння пяцёрніка або інакш дуброўкі (ён па 15 зл. за кілаграм).

Гайнаўскае „Руно" прымае зёлкі і іншыя лекавыя расліны найвышэйшай якасці з папароў, лугоў ды чыстых лясоў Белавежскай пушчы. Іх дакладна правяраюць у лабараторыях. Не купляюць хвашчу, дзе на палях з пасаджанай бульбай знішчаюць каларадскага жука пры дапамозе хімічных рэчываў. Не купляюць зёлак з палёў, на якіх праводзіцца хімічная праполка ад пустазелля.

Збіральнікі павінны шанаваць прыроду. Варта памятаць, каб не вырываць усіх кусцікаў ягадніку ў адным месцы (частку заўсёды трэба пакідаць, каб раслі гадамі). Бо інакш дзе ж летам пойдзем у лес па ягады чарніцы і суніцы. Не ўсе заўважылі, што ўжо зараз у ваколіцы Ляўкова рэдка дзе знойдзем крушыну і каліну. А як памятаю з часу свайго дзяцінства тут іх столькі было. Але гэтак было перад меліярацыяй даволі завілістай спакойнай рачулкі Баброўкі, прытока Нараўкі. Берагі рэчкі былі ў зарасніках (раслі кусты вярбы, каліны). Тут летам вяліся лугавыя і балотныя птушкі, а зімой хаваліся зайцы і прыцемкамі прыбягалі пад пахучыя сенам стадолы.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## СПАЧУВАННІ

Шчырыя словы спачування **Пятру і Тамары КАРНІЛЮКАМ** і іх сям'і з прычыны напаткаўшага іх гора – смерці бацькі **УЛАДЗІМІРА**.

**Сябры з Аб'яднання бацькоў АБ-БА**

# Свята славянскай пісьменнасці

Фота Адама ПАЎЛОЎСКАГА



Узнагароджаныя: Надзея Артымовіч і Міраслава Лукша

Burmistrz Miasta Bielsk Podlaski

ISO 9001

НІВА

### Дзень першы

Беларускія выдавецтвы былі прадстаўлены ў час мерапрыемства „Пралог. Свята славянскай пісьменнасці", якое адбылося ў Бельску-Падляшскім. У гэтай падзеі прынялі ўдзел навукоўцы, мовазнаўцы, пісьменнікі, мастакі з Беларусі, Польшчы і Расіі, а таксама творчая мясцовая інтэлігенцыя. Бельскі прывілей, які ўвайшоў у другую рэдакцыю Статута Вялікага Княства Літоўскага, сведчыць аб тым, што ў залаты час XVI стагоддзя горад сапраўды быў сур'ёзным культурна-асветніцкім цэнтрам. Свята славянскай пісьменнасці вяртае канцэпцыю гэтай эпохі.

У Бельску з 22 па 24 траўня прайшло Свята славянскай пісьменнасці. Якраз 24 чысла Праваслаўная царква ўспамінае святых братоў Кірылу і Мяфодзія, якіх называюць асветнікамі славян. Галоўным арганізатарам мерапрыемства з'яўляецца Музей малой бацькаўшчыны ў Студзіводах, на чале з Дарафеем Фіёнікам. Урачыстае адкрыццё мерапрыемства адбылося ў нядзелю перад бельскай ратушай. Сабраных у цэнтры горада прывіталі арганізатары ды бургамістр Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі, які падкрэсліў, што сёлета адзначаюцца важныя даты ў жыцці беларускай меншасці. На рукі шматгадовай журналісткі „Нівы" Міры Лукшы перадаў юбілейны дыплом з нагоды 60-годзя тыднёвіка беларусаў у Польшчы, прытым дадаў, што тыднёвік значна паўплываў на ўзбагачэнне беларускай літаратуры і здзяйсняе функцыі не толькі захоўвання духоўнай і культурна-гістарычнай спадчыны, але і тлумачыць маладому пакаленню значэнне беларускага слова.

— З упэўненасцю магу сказаць, што „Ніва" з'яўляецца тым часопісам, які выхаваў шмат пакаленняў нашага горада. Я сам, будучы вучнем, чытаў наш тыднёвік. Сёння таксама гартаю яго старонкі таму, што бургамістру трэба ведаць, што пішуць пра яго горад. „Ніва" фарміруе грамадскую думку, — сказаў Яраслаў Бароўскі.

### Стэнд „Нівы"

Кніжны кірмаш шматлікіх беларускіх выдавецтваў, якія апошнімі гадамі суправаджае мерапрыемства, прываблівае літаратурай розных стыляў і жанраў. Трэба пагадзіцца з Тамашам Сулімам, які ў апошнім нумары „Часопіса" ў артыкуле „*Bieżeństwo* — brakujący mit" піша: „Obchody rocznicowe pokazały potencjał, drzemiący w micie *bieżeństwa*. Podczas różnego rodzaju uroczystości rocznicowych zgodnie uczestniczyły w nich organizacje cerkiewne i białoruskie. *Bieżeństwo* łączy i wyznanie, i narodowość, wielu spolonizowanych potomków zaczyna to rozumieć".

Вось, кніга „Бежанства 1915 года" карысталася найбольшай папулярнасцю. Адны куплялі яе беручы пад увагу суседзяў, якія з'яўляюцца героямі паасобных расказаў, другія падкрэслівалі, што ўжо даўно хацелі яе „злавіць". Яркім прыкладам на пацвярджэнне слоў Тамаша Сулімы стаў спадар Заброцкі, які хаця добра не ведае беларускай мовы, кірыліцай зусім не карыстаецца, кнігу набыў з-за пашаны да тых усіх герояў кнігі, якія перажылі тое гора, што і ягоныя дзяды.

Ведама, найбольшыя пласты ведаў ляжаць у чалавечай памяці. Дабрацца да гэтых тайных, пазбаўленых цэнзуры, рэсурсаў гэта мара кожнага даследчыка. Чалавечая памяць мае хібу — беззваротна паміраe разам з яе носьбітам. Размовы з людзьмі, збіранне абрыўкаў пачутых выказванняў гэта надзвычай каштоўны матэрыял. Таленавітыя пісьменнікі ўмеюць з гэтага вычараваць сапраўдныя шэдэўры. Амаль па працягу шасцідзесяці гадоў, адны прафесійна, другія па-аматарску, у адпаведнасці з уласным ключом, журналісты „Нівы" даследавалі тыя аспекты мінулага. Кніга „Бежанства 1915 года" спалучае ў сабе гістарычныя і літаратурныя каштоўнасці. Гэта не навуковая праца ці лексікон. У тэкстах выступаюць канкрэтныя даты, імёны і прозвішчы бацькоў, дзядоў ці сваякоў. Перш за ўсё, гэта апавяданні пра жыццё. У змешчаных тэкстах вельмі важнымі з'яўляюцца дэталі, якія ўплываюць на ўяўленне чытача і назіраюць яму трагедыю людзей, вымушаных пакінуць сваю бацькаўшчыну. Кніга ўсведамляе зло, ахвярамі якога сталі нашы продкі і яго доўгатэрміновыя паслядоўнасці. Гісторыя бежанцаў з'яўляецца часткай нашай агульнай гісторыі. Напэўна таму зацікаўленне менавіта гэтай кнігай было вялікае.

### Бельска-ніўскія паралелі

Свята славянскай пісьменнасці становіцца ўсё багацейшым, усё больш гасцей з розных краін і розных навуковых асяродкаў прымае ў ім удзел. Сёлета арганізатар мерапрыемства Дарафей Фіёнік моцна заакцэнтаваў ролю тыднёвіка „Ніва" ў развіцці не толькі беларускай пісьменнасці, але і грамадскай думкі. Перад ратушай была адкрыта выстаўка, якая нагадвала пра прысутнасць газеты ў беларускім жыцці і ўплыў „ніўскага" асяроддзя на найбольш яркія падзеі ў жыцці нашай меншасці.

Фота Улі ШУБЗДЫ




Арганізатары: Тамаш Суліма і Дарафей Фіёнік

— Цешуся, што так блізка супрацоўнічаем з „Нівай", — адзначыў Дарафей Фіёнік. — Я думаю, што тут важная асоба самога галоўнага рэдактара, які, на маю думку, адыгрывае значную культуратворчую ролю ў нашым асяроддзі. Ён мяне намовіў да ўдзелу ў конкурсе „Малых бацькаўшчын" у 1995 годзе. Мы тады атрымалі адну з галоўных узнагарод і гэта быў такі штуршок да далейшага актыўнага дзеяння.

Адкрываючы першы дзень мерапрыемства „Пралог. Свята славянскай пісьменнасці" бургамістр Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі адначасова падвёў яго, кажучы: „Няма *Нівы* без Бельска. Няма Бельска без *Нівы*".

**Уршуля ШУБЗДА**

# **Мастацкія** кніжкі ў «Арсенале»

Багдан Дудко — сапраўдны прыхільнік Фестывалю мастацкай кніжкі — двухдзённага мерапрыемства, арганізаванага беластоцкай галерэяй «Арсенал». Запрасілі яго сюды, між іншым, беручы пад увагу кніжку «Ваўчок-Маўчун», выдадзенай «Белай Вежай». Зразумелы, глыбокі тэкст, прыгожыя ілюстрацыі і маленькі шэры ваўчок-прытулянка аўтарства славутай гарадоцкай рукадзельніцы Дароты Сульжык прыцягваюць увагу пакупніка. Паводле слоў супрацоўнікаў Багдана Дудко, яе экземпляры, быццам цёплыя булачкі, знікаюць з паліц варшаўскіх кнігарняў. Сярод фестывальных шэдэўраў апынуліся, між іншым, вядомыя чытачам нашага тыднёвіка «Смяшынкі» Віктара Шведа, праілюстраваныя Тацянай Місіюк ды «Дзяўчынка і хмарка» Міры Лукшы з цікавымі рысункамі Кацярыны Валкавыцкай. У адрозненні ад сёлетняга падляшскаопернага кніжнага кірмашу, аўтары і выдаўцы маглі паказаць тут свае публікацыі зусім бясплатна. Гэтай магчымасцю пакарысталіся перш за ўсё невялікія выдавецтвы з нашага рэгіёна і Польшчы, між іншым, Беластоцкі лялечны тэатр, Цэнтр Заменгофа, Ортдрук, Праграмная рада тыднёвіка «Ніва», Дзве сястры, Закамаркі, Знак «Эмотыкон» і Алегорыя. Выдатная і важная падтрымка дзіцячай літаратуры з вышэйшай паліцы. Адным словам, адпаведная кніжка ў адпаведным месцы. Звычайна такога тыпу выдаўцам не хапае грошай, каб аплаціць сабе пастаяннае месца ў магазінах «Эмпік» ці іншых кніжных мегакрамах. У выніку доступ да добрых кніжак сур'ёзна абмежаваны.

А і пакупнікам трэба спярша некалькі разоў падумаць, чым купіць такую кніжку, паколькі цэніцца яна нашмат вышэй, чым літаратура са супермаркетнымі скідкамі. Кніжак, у тым ліку дзіцячых, выдаецца цяпер сапраўды шмат. Справа ў тым, каб зрабіць адпаведны выбар. Добрага чытача немагчыма выхаваць на кніжках купленых на кілаграмы ў «Бядронцы» ці «Стакротцы» з арфаграфічнымі і моўнымі памылкамі, са спрошчаным, абмежаваным усякага тыпу цэнзурай тэкстам і ілюстрацыямі жыўцом узятымі з адурманьваючых амерыканскіх мультфільмаў. Ну і каб дабіцца пазітыўных рэзультатаў, абавязкова трэба прысутнічаць у працяглым працэсе кніжнага выхавання, значыць вечар у вечар сядзець пры дзіцячым ложку з кніжкай у руках. Цяжка гэта зрабіць, калі тое, што трымаеш у руках, табе не падабаецца. Значыць, добрая дзіцячая кніжка павінна быць запатрабаванай дзецьмі, бацькамі і дзядамі.

І вось у «Арсенале» апынуліся менавіта толькі такія кніжкі. Яны інспіруюць, вучаць і радуюць абсалютна ўсіх. Перакладзенае з нямецкай мовы (дзякуючы фінансавай падтрымцы Інстытута імя Гётэ) «Вялікае варэнне на вуліцы Чарэшневай, рэцэпты на чатыры поры года» раскупілі ўжо першага дня фестывалю. Гэта лепшы падарак малым і вялікім гаспадыням. Простыя, карысныя і смачныя стравы, якія можна падрыхтаваць з агульнадаступных, танных інгрэдыентаў. Рэцэпты, у якіх сустракаюцца культуры, пакаленні, у якіх гісторыя не сварыцца з сучаснасцю, дзе рыс на малацэ з цукрам і цынамонам сугучны з печанымі яблыкамі з муслі і хлебам з бананаў. Апрача таго знойдзем там шмат цікавых парад і каляровых ілюстрацый у выглядзе практычнага дапаможніка па збіванні яек, мыцці агародніны і садавіны, варэнні бульбы ці падказкі як саставіць уласную кулінарную кніжку.

Вартай увагі з'яўляецца таксама кніжка «Лысоль і Струся. Урокі непаслухмянасці» аўтарства Марціна Віха. Вясёлыя прыгоды дзяўчынкі і сабачкі ў выхаваўчым плане перамагаюць з тоўстымі тамамі педагагічнай дыдактыкі. Куча смеху малым і дарослым. Малечам, якім чаканне вечаровай казкі здаецца надта доўгім, спатрэбяцца змешчаныя там шматлікія простыя, чорна-белыя, коміксавыя перапынкі, запісаныя лёгкімі ў расшыфроўцы вялікімі літарамі. Ззаду вокладкі заява: «Дарагі чытач/чытачка, калі ў цябе ёсць нейкая дурная ідэя, дашлі яе, калі ласка, Лысолю». Падпісана: Віх.

Не менш цікава, што на выдавецкім рынку паявілася псіхатэрапеўтычная літаратура для дзяцей. Жыццёвыя трагедыі ў канкрэтных словах і абразах. Каму спатрэбяцца такія кніжкі? Мабыць, толькі дарослым, якія не прыкмячаюць тэрапеўтычнага значэння сапраўднай літаратуры.



Прыемным фестывальным сюрпрызам аказалася белая кніга з быццам запісаным уручную жоўта-зялёна-аранжавым загалоўкам «Легенды Падляшша». Знаходзілася яна не на кніжных прылаўках, але ў галерэйным кутку адпачынку. З легендамі знаёмілася я, прысеўшы па-турэцку на адной з каляровых падушак. Своеасаблівы зборнік дзіцячых апавяданняў і малюнкаў, звязаных з тэмай шматкультурнага прошлага іх мясцовасцей, кранаў шчырасцю і прастатой. На чорна-белых здымках аўтараў апавяданняў распазнаю, між іншым, вучняў чацвёртага класа школы ў Крынках. Цікавыя твары, цікавыя рысункі, цікавыя гісторыі.

Па сутнасці кожная з прэзентаваных у час фестывалю кніжак вартая асобнага каментарыя.

На жаль, не хопіць на гэта ні майго часу, ні месца на старонках нашага тыднёвіка. Таму цяпер засяроджуся на іншых атракцыёнах, якімі карысталіся наведвальнікі фестывалю. Ящчэ да яго адкрыцця прымаліся запісы на дзіцячыя майстаркласы па чэрпанні паперы, ілюстраванні і тыпаграфіі. На месцы можна было адбіць літары на ўласным адзенні і сценах. Такім чынам паўстаў даволі цікавы па змесце сценны мураль. Побач працавала выстаўка дызайнерскіх ілюстрацый і старая друкарская майстэрня з Музея друкарскага мастацтва і вырабу паперы ў Супраслі, якую абслугоўваў супрасльскі манах (прынамсі так выглядаў). Закупленую на фестывалі (са скідкай) літаратуру можна было ўпакаваць у густоўную, чорную тэкстыльную торбу з зялёным сабакам і надпісам «**Pies na kulturę**».

Асабіста мяне не ўразіла колькасць наведвальнікаў фестывалю, але Багдан Дудко, які дзяжурыў там цягам двух поўных дзён, сцвердзіў з задавальненнем, што не было іх менш, чым на вялікіх падляшскаоперных кірмашах.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

## Не дазваляйма звесціся...

У пачатку траўня па электроннай пошце атрымаў я прапанову ўдзельнічаць у «Анкеце- TV.PL». Згадзіўся, адказаў на ўсе прад'яўленыя пытанні на тэму польскіх серыялаў. Я паставіў на «Айца Матэвуша» і «Чатырох танкістаў і сабаку». Разумеецца, што свой погляд абгрунтаваў я своеасаблівай аргументацыяй. У інфармацыі заяўлялася, што самыя цікавыя каментарыі да фільмаўлаўрэатаў будуць узнагароджаны. На канец падзякавалі за ўдзел у апытанні і папрасілі даць свае персанальныя даныя, нумары тэлефонаў для запаўнення карты ўдзельніцтва ў конкурсе. Я даверліва даў свае даныя. Лічыў, што гэта неабходнае арганізатарам для статыстыкі. Але 12 траўня атрымаў на свой мабільнік эсэмэску такога зместу: «*Sekretariat Organizatora i TVP: los na 3200 zł. otrzymuje właściciel/ka Nr. 514344386. Proszę o odbiór. Odpisz. OK. Regulamin SMS TVP.Pl Organizator RMS Sp z o.o. 3,69 Nadawca 7312 wysłano. 15:48:50 12.05.*». Прызнаюся шчыра, што я, нявопытны карыстальнік мабільніка, эсэмэскамі не карыстаюся. Папрасіў я тады дачку разабрацца з гэтай інфармацыяй.

А яна без запінкі адшпарыла: «Выкінце гэты СМС. Гэта звычайная фальшыўка, ашуканства». Паспрабаваў я пакорпацца яшчэ ў інтэрнэце. І вось што прачытаў на адной старонцы: «UWAGA na ANKIETY! NACIĄGACZE!!!». Прачытаў і адразу паверыў дачцэ. Звычайныя нахабнікі намагаюцца нажывацца коштам добрасумленных даверлівых людзей. Затым мой заклік: Не дазваляйма звесціся ашуканцам!

**Уладзімір СІДАРУК**

## Праваднaя нядзеля

Велікодныя святкаванні ў гонар памерлых у царкоўных прыходах адзначаюцца не ў аднолькавым тэрміне. Адны моляцца ў першую нядзелю пасля Пасхі, іншыя ў чарговую нядзелю, а на Беларусі, напрыклад, за памерлых моляцца на Сёмуху (Тройцу). На такім святкаванні я гасцяваў дзесяць год таму ў Вярховічах Камянецкага раёна з пакойнай пляменніцай Ларысай. У той час была гэта вялікая падзея. Зранку ў царкве служылася літургія, суродзічы закуплялі паніхіду за памерлых, затым пасля багаслужбы падаваліся са святочнымі стравамі (ядой і напіткамі) на могільнік. На магілкі суродзічаў неслі яйкікрашанкі, велікодны пачастунак, затым, паставіўшы лампадкі і згаварыўшы малітву над магілай, падаваліся ў цянёк суседніх дрэў і сядалі да святочнага застолля. Такім чынам заставаліся ў перакананні, што дапамагаюць душам удастоіцца Царства нябеснага. Гасціна доўжылася да адвячорка...

Раней і ў Кузаўскім прыходзе неслі яйкі ды свянцонку на магілкі. Зараз гэтая звычка адышла ў забыццё. У велікодную суботу наводзяць парадак адно на магілах, ставяць букеты свежых кветак і лампадкі. Затым у Праваднyю нядзелю супольна са святаром молімся за душы памерлых суродзічаў. Паколькі кузаўцы адзначалі Провады ў першую нядзелю пасля Вялікадня, у прыходзе ў Чаромсе-Станцыі ўрачыстасці на могілках адбыліся тыдзень пазней, г.зн. 15 траўня. Зранку службу правілі а. Юры Пліс з а. Мікалаем Беламызым. Яны таксама маліліся на мясцовым могільніку. Надвор'е, хоць і было не надта цёплае, бо скрозь плечы пранізваў халодны вецярок, на могільніку мроілася ад вернікаў, а на стаянках — ад дзясяткаў аўтамабіляў. Так зрэшты адбываецца штогод. А пасля былі сямейныя сустрэчы пры застоллі.

І так прайшлі чарговыя велікодныя святкаванні. Затым да наступнага года...

**Уладзімір СІДАРУК**

## Песні з-над Нараўкі

Я з маладых год люблю прыгожыя, меладычныя песні. Ведаю шмат сучасных песень і многа песень мінулых гадоў. Кожную суботу слухаю перадачу беларускага радыё «Сустрэчы з песняй». Аднойчы ў эфіры гучала песня «Чарнаморская чайка», якая мне вельмі спадабалася. Прыгожы барытон спяваў аб тым, як цудоўна лятаюць чайкі над марской вадой.

У маю галаву прыйшла думка, што недалёка ад мяне знаходзіцца Семяноўскае вадасховішча — малое «мора», над якім кружаць улетку балотныя чайкі ды іншыя птушкі. Было прадвесне і павольна пачаў складацца звычайны верш:

Скончыўся холад зімовы,  
Сонца ўжо дорыць цяпло...  
Там паказаліся чайкі,  
Чайкі ляцяць над сялом.

Успомнілася мне, як ранняй вясной вяскоўцы выходзяць на вуліцу і ўзмахам рук вітаюць ключы птушак, якія вяртаюцца да нас з выраю і нясуць веснавое цяпло. Такі вобраз дапамог напісаць прыпеў песні:

Чайка, семяноўская чайка  
Мне памахала крылом,  
А я табе, семяноўская чайка,  
Я табе памахаю рукой.

Напісаў я яшчэ два куплеты і даў тэкст Мікалаю Мяжэннаму — музычнаму кіраўніку ляўкоўскіх «Цаглінак». М. Мяжэнны — прафесійны баяніст. Ён па нотах іграе і спявае ў мажорных і мінорных танальнасцях. Мяжэнны напісаў музыку і атрымалася добрая песня «Семяноўская чайка», якая спадабалася калектыву «Цаглінкі» і ўвайшла ў іхні рэпертуар.

Мне таксама хацелася падарыць «Цаглінкам» песню аб Ляўкове, таму, што тут была мая першая настаўніцкая праца. Падумаўшы, я стаў пісаць:

Запальвае вечар агні  
У мілым Ляўкове маім,  
У клубе фабрычным свой хор,  
Тут песні ляцяць аж да зор.

Мяне цікавіць мінулае і песні ваенных гадоў, бо яны адлюстроўваюць змаганне з ворагам. У песнях на ваенную тэму раскрываюцца высакародныя, патрыятычныя пачуцці. Таму я пішу:

Трывожна ўздыхаюць басы  
Аб цяжкім сялянскім жыцці,  
Аб подзвігах нашых дзядоў,  
Аб жахах ваенных гадоў.

Прыгадваю лагоднае, аптымістычнае заканчэнне песні:

Прапаў каля рэчкі туман,  
Пайшоў на спачынак баян,  
Пагаслі ў Ляўкове агні,  
А песні жывуць у душы.

Верш складзены, застаецца кампазітару напісаць музыку і Мікалай Мяжэнны з ахвотай гэта робіць. Так узнікла новая песня «А песні жывуць». «Цаглінкам» патрэбная такая песня. Яны спяваюць ужо 30 гадоў.

Гаворыцца, што чым далей у лес, тым больш дрэў.

З'явілася патрэба напісаць песню аб гмінным цэнтры, аб Нараўцы, аб Нараўчанскай гміне. Стаў я працаваць над вершам «Мой астравок», які пачынаецца так:

Мой астравок адзіны ў цэлым свеце,  
Няхай красуецца, жыве няхай!  
Шумяць дубы пад Нараўкай у лесе  
Пра мой любімы Нараўчанскі край.

Маё супрацоўніцтва з музыкантам Мяжэнным прадаўжаецца. Мы напісалі ўжо сем песень на беларускай мове. Толькі спявайце!

**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Маёвыя сустрэчы ў Шчытах

Маёвыя сустрэчы ў Шчытах — гэта не толькі спевы і танцы. Гэта беларускі пікнік, сярод майскай зелені і зычлівых людзей. Сустрэчы пачаліся з выступленняў дзетак з Бельска-Падляшскага, Гайнаўкі і Беластока. Свае беларускія песні дзеці спявалі для сяброў, сваякоў, мясцовых людзей.

Пасля на сцэну выйшлі дарослыя выканаўцы. Але ніхто не адправіўся і не з'ехаў дамоў! Дзеці засталіся ў Шчытах. Там пад кірункам мастака Міраслава Здрайкоўскага малявалі кашулькі ў беларускія ўзоры. А калі прагаладаліся, ласаваліся смакоццямі з грыля, якія падрыхтавалі іхнія бацькі і сваякі. А ў падарожжы, на свежым паветры ўсё смакуе шмат разоў больш чым у хаце.

Маёвыя сустрэчы ў Шчытах наладзілі ў нядзельку, на веснавога Міколу, 22 мая гэтага года.

**(зор)**

**Фота Адама Паўлоўскага**












*Міра ЛУКША*

## *Сліва*

*Сады белапенна*
*вясной заліваюць,*
*і заплоцці*
*слівы старэнькія*
*ахінаюць.*
*Па падворках*
*самотныя слівкі*
*чыпеюць,*
*ці гаспадара маюць,*
*ці не,*
*плод свой вырошчваюць,*
*спеюць.*
*Касцянкі залацістыя,*
*чорныя, сінія, фіялетавыя*
*з мякішам салодкім і кіслым,*
*сліва летам выспельвае,*
*на галінках сваіх гушкае.*
*Кормяць усіх багата*
*і сартавыя, і адзічэлыя,*
*і чалавека, звяра і птушку,*
*на дрэве ці пад плотам,*
*на полі ці пад хатай...*
*Як жа ты, сліва,*
*красой захапіла,*
*усіх накарміла,*
*ціхая, простая, мілая!*

*Георгі Качахідзе*

## *Я і мама*

*Не пайду гуляць я сёння:*
*Мама хворая мая.*
*Ёй ніхто на белым свеце*
*Не паможа лепш, чым я.*
*Клапачуся я, і мама*
*кажа:*
*— Стала мне лягчэй.*
*Ад тваёй увагі шчырай*
*Я папраўлюся хутчэй.*

# УВАГА КОНКУРС! № 22-16

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 5 чэрвеня 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Рада з намі пагуляць.**
**Эх, яго нам не дагнаць!**
**Хоць жыве ў суседнім лесе,**
**А да нас дражніцца лезе.**
**Р...** (У. Мазго)

**Адказ на загадкі № 18-16: дождж, зямля, трава. Узнагароды, наклейкі з разнавіднымі матывамі, выйгралі Рафал Шумінскі з Бабік, Караліна Нарбут, Матэвуш Валентовіч з Шудзялава, Міхал Тапалянскі з Нарвы. Віншуем!**

# Гайнаўская моладзь разважае, што такое Бацькаўшчына

Кожны, хто мае адвагу напісаць хоць некалькі слоў па-беларуску — малайчына! Гэтая ўмеласць становіцца надзвычай пажаданай і элітарнай.

У час школьнага свята беларускай культуры, якое 13 мая г.г. праходзіла ў гайнаўскай «чацвёрцы», былі падведзены вынікі конкурсу пад загалоўкам: «Што такое Бацькаўшчына?». Вучні ахвотна паднялі выклік і на конкурс паступілі дзясяткі сачыненняў і вершаў. Аднак дзіўна і неяк сумна — творы былі напісаны на польскай мове. Ну, не зусім дакладна так. Дзве асобы з той грамады ўсё ж рашыліся праявіць сябе на беларускай мове. Думаем, што невыпадкова! Гэта гімназісткі Дыяна Юрчук (яе творы мы друкавалі ў «Зорцы») і Ева Іванюк. Праца Евы заслугоўвае асаблівай увагі. Гайнаўская гімназістка разважае пра бел-чырвона-белы сцяг. Гэта не проста абстрактнае сачыненне. Ева Іванюк шукае сувязей паміж сваёй сям'ёй і беларускай патрыятычнай сімволікай. Ужо сама задума, каб ставіць гэтыя справы, варта найбольшай пахвалы і ўзнагароды.

Пакуль працу гімназісткі прыкмецілі арганізатары конкурсу. Яна таксама пайшла на конкурс «Пазнай Беларусь»...

Настаўнікі: Людміла Грыгарук, Бэата Кендысь, Гражына Паўлючук і дыр. Бажэна Маркевіч віншуюць удзельнікаў конкурсу

Тэма «Што такое Бацькаўшчына?», згодна з сучаснай модай, найбольш яскрава адлюстраваная ў малюнках і фатаграфіі. Тут можна толькі здзіўляццаэнтузіязму моладзі. Як не цікава, «сімвал Бацькаўшчыны» для іх гэта «бабуля», «вясковая драўляная хатка», «бусел», «васількі». На адным малюнку мы прыкмецілі хатні жытнёвы хлеб, агорнуты ільняным ручніком з бел-чырвона-белым арнаментам. Цікавая рэч, хоць апошнім часам усё менш у нас прыкмячаюць незалежную сімволіку, яна ўсё роўна прасочваецца праз думкі маладых беларусаў.

**Зорка, фота ГК**

## Вершы Віктара Шведа

### На геаграфіі ўроку

Настаўнік просіць: — Валерык,
Пакажы на карце Амерыку.
Валерык, не на жарты,
Тыцнуў пальцам ў карту.

— Дзякую. А вы дзеткі-верникі
Скажыце, хто адкрыў Амерыку?
— Усе мы ў гэта верым,
Вядома, наш Валерык!

### Які наш род?

— Матуля, мілы татка
Паўтарае штодзень,
Што нашы нашчадкі
Ад малпы паходзяць?

— Не ведаю я ўсё-ткі
Аб твайго бацькі родзе.
Магчыма яго продкі
Ад малпы паходзяць.

*Паглыбляй свае веды*

## Хто і як спіць?

*На зямлі няма такога звера, які б не спаў. І не толькі звера. Усе жывёлы, каб жыць, павінны спаць.*

*Калі ёсць на свеце такія жывёлы, то яны або нядоўга жывуць, або няма ў іх нерваў і мозгу. Сон — гэта перш за ўсё адпачынак. Ён аднаўляе сілы стомленай нервовай сістэмы. Бяссонніца забівае хутчэй, чым голад. Сабака, калі яго пазбавіць сну, памірае праз пяць дзён.*

*Але на глыбокі сон могуць дазволіць сабе толькі нямногія жывёлы: тыя, у каго няма ворагаў і хто спіць прыняўшы надзейныя меры для абароны свайго сну.*

*Самы, бадай, глыбокі сон у мядзведзя, які жыве ў Індыі. Спіць ён на зямлі, і так моцна, што ні трэск галін, ні гучная размова не будзяць яго. Сяляне, якія збіраюць галлё, часта нават наступаюць на спячага мядзведзя. Тады ён ускоквае, як звар'яцелы, і ад страху б'е чалавека лапамі па твары.*

*Але звычайна жывёлы спяць вельмі чутка. Каб вораг не застаў іх знянацку, часта прачынаюцца. Ненадоўга засынаючы, зноў адкрываюць вочы і азіраюцца. Таму атрымліваецца, што большую частку свайго сну звяры не спяць, а дрэмлюць.*

*Птушкі спяць 13-16 гадзін. Сланы спяць 2-3 гадзіны ў суткі. У сланоў у звычаі спаць стоячы. Усе ведаюць, што і коні спяць стоячы. Гэтак жа дрэмлюць каровы і авечкі. Многа спяць свінні. Але рэкорд тут належыць адной змяі, пра якую расказваюць, быццам яна прачынаецца апошнія дні, дзве гадзіны шукае сабе ежу, а потым зноў засынае да наступнага поўдня.*

*Дэльфіны часам цэлы тыдзень — днём і ноччу — праследуюць караблі. Але калі ж яны спяць? Аказваецца, на хаду засынаючы секунд на трыццаць. Доследы паказалі, што водным жывёлам, каб добра выспацца, трэба менш часу, чым сухапутным. Нават чалавек выдатна адчувае сябе, калі спіць усяго тры гадзіны ў ванне з вадой.*

*Жывёлы, ва ўсякім выпадку — звяры бачаць сны. І часта бачаць сны страшныя. Сланы, напалоханыя імі, трубяць у сне. Без сноў і чалавек жыць не можа. Жывёлам сны гэтак жа неабходныя, як і чалавеку.*

***(А-ЯЦ)***

## Польска-беларуская крыжаванка № 22-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 18:**

Тэма, сяло, бура, рай, рак, Марк, вясна, на, хатка, горла, амур, Азія, Тут, турбіна. Янтар, турма, ара, гурт, мак, хор, вар, ар, мятла, расказ, сарна, яйка, мята, оптыка, ты.

Узнагароды, стылус для смартфонаў (touch pen), выйгралі **Міхал Паніквіцкі, Матэвуш Валентыновіч** з Бабік, **Мальвіна Маркевіч, Іаанна Нікіцюк** з Бельска-Падляшскага, **Куба Анішчук, Аня Радзівончык** з Нараўкі, **Вікторыя Габец, Малгажата Садоўская** з Міхалова, **Каміля Станіславюк, Кацярына Амільянчык** з Шудзялава. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Czerep | As | | | | Chleb | | | |
| | | | Wieniec | | | Siekierka | Nos / Jak | |
| | Czas | Art | | Sieć | | Łatka | | |
| | Wesele | | | | | | | |
| | | Niebo | | | | | Ar | |
| | | | | | Tak | | | |
| Palec / Nić | | | | | Ara | | | |

# Быць паэтам

Цяжка быць паэтам у сучасным свеце і цяперашнім часе. У свеце глабальных электронных масмедыяў ды простага доступу да інфармацыі зусім няма месца для літаратуры. Па гэтай прычыне сучасныя людзі саміх літаратараў сталі ўспрымаць як наіўных людзей, якія не маюць грошай з таго, што пішуць. Гэта і праўда, што сапраўдныя пісьменнікі не маюць непасрэднага хлеба з таго, што пішуць. Хлеб з таго робяць выдаўцы, старшыні літаратурных арганізацый, але і гэта не непасрэдны хлеб. З продажы кніг сучасны пісьменнік не выжыве ды не выкарміць сваёй сям'і, асабліва беларускі пісьменнік. Праца для ідэі беларускасці нават для многіх грамадскіх дзеячаў і журналістаў з беларускага асяроддзя на Беласточчыне ўспрымаецца як наіўная. У беларускіх масмедыях на Падляшшы хутчэй напішуць ці пакажуць таго, каму ўдалося атрымаць вялікія гранты з Еўрасаюза, чым зробяць інтэрв'ю з беларускім паэтам. Дарэчы, журналістаў больш цікавіць вынік самаўрадавых выбараў, чым беларускія вершы. Калісь адзін журналіст сказаў мне, што ён піша пра тых, хто мае хлеб з беларускасці. Гэта значыць, што я ў гутарцы з ім выйшаў на дурня, бо не ўмею рабіць на літаратуры бізнесу. Але ці гэта ўвогуле была б літаратура, каб у мастацтва ўвайшла камерцыя?

Добра, калі сам аўтар мае падтрымку ды праяву зацікаўленасці ў самых блізкіх асоб. Часта, калі адбываецца мая аўтарская сустрэча, стараюся запрасіць на яе сяброў. Здзіўляе, што прыходзяць сябры, якіх зусім я не спадзяваўся. То з'явіцца знаёмы, які прыехаў 70 кіламетраў з вёскі ў Беласток, каб мяне падтрымаць. То прыйшла сяброўка, з якою калісьці разам вучыліся і даўно нашы дарогі разышліся. То прыйшла суседка з роднай вёскі, што жыве ў горадзе. Але не прыйдзе той, хто мае найбліжэй і з кім найчасцей сустракаюся. Ён заўсёды не мае часу бо працуе, або ідзе на трэнажорны зал ці басейн.

Паэт мусіць ведаць што адказаць нейкаму правінцыйнаму крытыку-аматару, які не любіць цябе, але чытае ўсе твае артыкулы ў „Ніве" ды мае ўсе твае зборнікі і заўсёды пры сустрэчы спрабуе цябе загнаць у каровін рог. Я, калі некага не люблю, то не чытаю яго кніг. Але ёсць людзі, якія нічога разумнага не ўмеюць стварыць, але найбольшае задавальненне дае ім зрабіць з кагось балота. Паэт мусіць умець адказаць таму, хто не купляе кніг, а пытае як прадаецца твая кніга. І яму не вытлумачыш, што не адным хлебам жыве чалавек, што для душы патрэбна таксама кніга, а не толькі грошы. Паэт часам і не мае з кім паразмаўляць. Хаця ў яго асяроддзі ёсць людзі з высокай адукацыяй, як і ён, то ўвесь час гавораць пра тое, дзе і за колькі што купілі і дзе і колькі заробяць.

У наш час пісьменнікаў заступілі спартсмены, акцёры тэлесерыялаў, усялякія шоўмены ды шарлатаны шоўбізнесу. Цяжка тады быць пісьменнікам ды ствараць літаратуру. Жывем у асабліва цяжкі час для душы чалавека. Зараз у матэрыяльным плане вельмі выгадны час, але для цела, а не для духу чалавека. Па гэтай прычыне ў гарадскіх агламерацыях людзі адчуваюць сябе асабліва нешчаслівымі. Зацікаўленасць спортам, шопінгам, культ спартыўнай фігуры, гонкі за матэрыяльнымі каштоўнасцямі ніколі не задаволяць сапраўдных душэўных патрэб чалавека. Гэта літаратура дазваляе нам знайсці сваё месца. Але гэтага не хоча прызнаць сучасны чалавек, які яшчэ не ўспеў нацешыцца цацкамі і таварамі сучаснай глабалізацыі. Замест задаволіць душу сустрэчамі і гаворкамі з найбліжэйшымі людзьмі, мы трацім час на сацыяльных сетках, каб пахваліцца самім сабою.

Тое, што ўжо страчана, ведаюць жыхары Заходняй Еўропы, ЗША. Мы пакуль захапляемся кітайскімі электроннымі цацкамі. Дзяцей выхоўваюць не добрая кніга ці казкі бабуль на дабранач, але бяздушная тэхніка, якая апанавала ўвесь свет. Масмедыі замест прэзентаваць творчасць літаратараў, жывуць скандаламі, таннымі сенсацыямі з сацыяльнага ды палітычнага свету. Нікому непатрэбная мастацкая літаратура, але кнігі на тэму як пахудзець, як хутка падрыхтаваць страву ці кнігі быццам вядомых асоб, але невядома чым яны праславіліся. Селебрыці, варожкі, кухары, палітыкі, акцёры, поп-зоркі адной песні робяць кар'еру дзі сваёй асобай прыцягваюць мільённыя аўдыторыі ў тэлеканалах і інтэрнэце, але не паэты, якія прадбачылі нам век, у якім мы жывем. І хто за гэта ім дзякуе, хто іх чытае, любіць ды паважае?! Той удзячны пісьменнікам, хто замест штодзённай мітусні знаходзіць час на кнігу, а не на культ свайго цела, культ тэхнікі і электронных масмедыяў, бо там ужо даўно памерла літаратура ды высокая культура.

Я на шчасце сустракаю ў жыцці такіх людзей, за што ім з цэлага сэрца вельмі ўдзячны.

**Юрка БУЙНЮК**

# Пасляпленэрна ў «Арсенале»



Злева: Тамаш Кашэўнік, Данута Курань, Ян Шэўчык

**Гэта не быў звычайны мастацкі пленэр мастакоў, а хутчэй мастацка-навуковая разведка. Цэнтральнай кропкай і апорай праекта быў Усеагульны ўніверсітэт імя Яна Юзафа Ліпскага ў Тэрэмісках. Маладыя мастакі з Беластока Ян Шэўчык і Тамаш Кашэўнік запрасілі сваіх калег з Міждысцыплінарнай аспірантуры факультэта мультымедыйных камунікацый Мастацкага ўніверсітэта ў Познані да творчага аб'яднання з прыродай Белавежскай пушчы з неразлучнымі ад яе пушчанскімі насельнікамі. Як сказаў лідар групы праф. Марэк Васілеўскі з познаньскага МУ, узнік «поліфанічны збор мастацкіх эксперыментаў, мэта якіх заключаецца ў інтэрпрэтацыі рэальнасці з дапамогай розных моў, якімі карыстаецца мастацтва».**

Вынікі мінулагодняй разведкі-пленэру можна ўбачыць на выставе «Вяртаючыся ў Белавежу», адкрытай



13 мая ў беластоцкай галерэі «Арсенал». Па прызнанні Яна Шэўчыка, увесь праект быў натхнёны традыцыяй Агульнапольскіх мастацкіх пленэраў, арганізаваных у Белавежы Саюзам польскіх мастакоў у 1965-1980 гадах. Удзельнічалі ў іх у асноўным жывапісцы з беластоцкага асяроддзя, а таксама мастакі з усёй краіны і тагачасных сацыялістычных краін, у тым ліку з Беларусі. На гэты раз прэзентуецца шаснаццаць маладых мастакоў — познаньскіх аспірантаў — і Софія да Іст (Sofia da East), якая ўдзельнічае ў выставе ад імя віртуальнай лабараторыі Фемініцкага ўніверсітэта (паказала шэраг алоўкавых малюнкаў, якія паказваюць працэс вырошчвання грыба).

У выставачным каталогу-даведніку праф. Васілеўскі напісаў: «Праца мастакоў на ўскраіне Пушчы была шматвектарнай. У дадатак да сустрэч з ключавымі для разумення кантэксту навукоўцамі, мастакамі і гідамі былі працэсы індывідуальнага вопыту. Сямідзённы пленэр быў толькі пачаткам мастацкага і даследчыцкага працэсу, які працягваўся некалькі месяцаў у атмасферы палітычнай спрэчкі, якая раптам успыхнула па пытанні Пушчы. Гэты канфлікт пацвердзіў прыкмечаныя падчас палявых даследаванняў глыбокія лініі культурных падзелаў ды палітычнай палярызацыі ў Белавежы. Тапаграфія Пушчы ўяўляе сабой складаную сетку, на якую накладваюцца не толькі займальная арганізацыя першабытнай натуры, але і біяпалітыка, і геапалітыка, якія перасякаюць лес памежнымі засекамі і бетоннымі дарогамі для бронетранспарцёраў. Гэта моцна замініраванае поле культурнай і эканамічнай вайны, гэта гісторыя знішчэння жывёл і людзей». Як адзначыў таксама падчас вернісажу, у Белавежскай пушчы «сутыкаюцца розныя апавяданні, але яны ўсё інтэрпрэтацыя прыроды чалавекам, які больш не з'яўляецца неад'емнай яе часткай». Дадаў, што якраз у Белавежскай пушчы, на мяжы першабытнага лесу, «найлепш відаць гэты абсалютны падзел».

Тамаш Кашэўнік у размове з «Нівай» сказаў на адкрыцці выставы:

— Работы эстэтычна падобныя, але канцэптуальна яны вельмі розныя. Мы паказваем іх ананімна (без подпісаў — прозвішчаў аўтараў — М. Х.), але выставу суправаджае даведнік, напісаны прафесарам Маркам Васілеўскім. Мы падзялілі прастору галерэі на пяць частак: плошча лесу, лес ноччу, у суправаджэнні ўява сну адной з мастачак. За гэтым лесам прыхаваная лабараторыя, дзе мастачка «вырошчвае» знойдзенае смецце, уключанае ў экасістэму. Гэта прастора, якую называем прагулачнай, з'яўляецца пераходнай да прасторы сузірання. На выставе рашуча можна адчуць усе тэмы, звязаныя не толькі з прыродай як такой, але і з беларуска-польскім памежжам. Мінулагодні пленэр быў таксама днямі даследаванняў, семінараў, сустрэч з людзьмі, якія вызначалі нам шырокі кантэкст гэтага месца. У апошні дзень мы мелі незапланаваную прыгоду. У апошнюю хвіліну перад 18-й гадзінай атрымалі мы візу для ўезду на другі бок Пушчы, ужо перад закрыццём у той дзень пагранперахода. Мы перасеклі мяжу, але не маглі вярнуцца. Мы вырашылі, што па-за планам застанемся там нанач і вярнуліся толькі раніцай пасля наведання Памесця Дзеда Мароза. Уражанні ад пабыўкі там былі дваістыя. Мы ўбачылі вельмі прыгожыя, чысценькія Каменюкі, мястэчка не такое, як у нас думаюць пра Беларусь у цэлым. Стварала яно ўражанне шырмы, макета. Я кажу пра амбівалентнасць нашых пачуццяў у гэтым кантэксце, таму што гэта было якраз супрацьстаянне нашых уяў з сітуацыяй, знойдзенай на беларускім баку. Большасць з нас ніколі раней у Беларусі не была і некаторыя з нас у значнай ступені падчас пабыўкі на другім баку мяжы былі збітаныя канфрантацыяй рэальнасці з перадачамі пра Беларусь у асноўным у польскіх СМІ.

Ён таксама адзначыў:

— У час пленэру і пры нагодзе суправаджальных семінараў пад эгідай Універсітэта ў Тэрэмісках, кожны з нас бег у думках да мясцовай беларушчыны. Не магло быць інакш. Амаль усе, з кім мы сутыкнуліся, так ці інакш звярталіся да яе.

Прафесар Марэк Васілеўскі:

— Не было ў маёй педагагічнай практыцы ў Мастацкім універсітэце ў Познані такога выдатна прадуманага праекта, як мінулагодні пленэр, ініцыяваны самімі студэнтамі, аспірантамі. Гэта паказвае іх вялікую сталасць.

На выставе ў некалькіх залах прадстаўлены былі розныя віды мастацтва, мастацкія сродкі камунікацыі. Адзін з сааўтараў выставы, беластачанін па паходжанні і прызнаны ўжо ў краіне мастак Павел Матышэўскі, які апрача фатаграфіі лясной скульптуры, выкананай на пяньку, астаўшымся ад высечкі ў Кнышынскай пушчы (спасылка на высечку Белавежскай пушчы), прадстаўляе на ёй радыёперадачу. Ён зарэгістраваў усе падзеі, звязаныя са спробамі высечкі Белавежскай пушчы, у тым ліку маніфестацыі, якія адбыліся вакол гэтай справы ці бурную сустрэчу з міністрам аховы асяроддзя:

— У Кнышынскай пушчы, на кавалку зямлі, які там маю (свой уласны дэндрарый у 300 метрах ад сцяны лесу — М. Х.), я зрабіў скульптуру — касцістую, круглаватую форму, якая нагадвае міцэлій (грыбніцу) і пакінуў яе там для наведвальнікаў лесу. У радыёэфіры я запісаў выказванні, як абараняць і як выкарыстоўваць Пушчу з яе прыроднымі гукамі і запісамі падзей з трэніровачнага лагера, прысвечанага яе ахове, у якім я ўдзельнічаў. Гучаць там, сярод іншага, параўнанні з тым, як яна ахоўваецца на беларускім баку. Наша сумесная паездка ў Белавежу мела быць спасылкай у асноўным на тыя падзеі, якія мелі месца там гадамі таму. На месцы, аднак, напластаваўся на гэта цэлы шэраг падзей, якія адбыліся там у сувязі з пушчанскай высечкай. Пры нагодзе мы, мастакі, мелі магчымасць пракаментаваць сітуацыю, якой жыла не толькі ўся Польшча.

Прысутная на адкрыцці ў «Арсенале» Данута Курань, старшыня Адукацыйнага фонду Яцка Кураня, якая вядзе Усеагульны ўніверсітэт у Тэрэмісках:

— Я вельмі рада візіту познаньскіх аспірантаў. Цешыць тое, што для іх такая важная Белавежская пушча, што яны хочуць тут перажыць час одуму і адлюстраваць гэта ў форме мастацтва, каб сказаць такім чынам нешта важнае. Я з захапленнем назірала, як яны раненька ўстаюць, і якія яны дысцыплінаваныя. Як ужо маючы некаторыя падказкі, спачатку ходзяць па вёсках, размаўляюць з мясцовымі жыхарамі і перажываюць Пушчу разам з яе жыхарамі, з вялікай павагай да іх. Яны ставіліся да мясцовых жыхароў як да неад'емнай часткі прыроды, звязаных з ёй да пакаленняў.

Аглядаючы выставу «Вяртаючыся ў Белавежу», несумненна можа адчуць сілу і дух Белавежскай пушчы.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Было — не мінула (1)

**У рамках чарговага Фестывалю навукі і мастацтва, ладжанага Беластоцкім універсітэтам, было праведзена мерапрыемства, прысвечанае дзейнасці Рамуальда Райса „Бурага". У яго рамках быў паказаны фільм з выказваннямі сведкаў ягонай дзейнасці на Віленшчыне і Беласточчыне, быў зачытаны даклад прафесара Эдмунда Дмітрува ды адбылася дыскусія з удзелам прысутнай нешматлікай публікі. Прыгадаю, што падпольны атрад Нарадовага вайсковага задзіночання (НВЗ), якім камандаваў „Буры", забіў трыццаць вазакоў, якія той атрад перавезлі ад Гайнаўкі пад Браньск. Да таго ж жорстка і без канкрэтнай прычыны расправіўся ў канцы студзеня — пачатку лютага 1946 года з насельніцтвам Занёў, Шпакоў, Залешан, забіваючы некалькі дзясяткаў цывільных асоб і спальваючы іх маёмасць.**

Прафесар Дмітрув сваю лекцыю прысвяціў злачынствам „Бурага" на Беласточчыне, а затым месцу тых падзей у калектыўнай памяці, якая па-рознаму выглядае ў розных асяроддзях. Напачатак адзначыў, што г.зв. справа вазакоў выклікала нявырашаны па сённяшні дзень канфлікт памяці. Ён разыгрываецца па сутнасці ў нашым рэгіёне, хаця яго аскепкі даходзяць і да Варшавы. Даклад прафесар падзяліў на дзве часткі.



## Было

Паводле мерытарычнага меркавання, распрацаванага ў 2001 годзе гісторыкамі з беластоцкага аддзялення Інстытута нацыянальнай памяці (ІНП), НВЗ на свой лад уключылася ў праводжаную тады рэпатрыяцыйную акцыю. Насельніцтва некаторых вёсак, асабліва з Бельскага і Беластоцкага паветаў, атрымлівала пісьмовыя папярэджанні ад тых арганізацый. Бывала, што забівалі адзінокіх асоб або і цэлыя сем'і, каб запалохаць астатніх жыхароў і прымусіць да рэпатрыяцыі. У верасні 1945 года Рамуальд Райс атрымаў загад ад свайго каменданта акругі Яна Шклярка „Котвіча" аб правядзенні пацыфікацыі паўднёва-ўсходняй часткі Бельскага павета. Яна была накіравана не толькі на знішчэнне варожай агентурнай сеткі, але і мела мець характар помсты на варожым да канспірацыі насельніцтве. Зараз не зусім ясныя прыведзеныя ў загадзе словы „пацыфікацыя" і „помста". У прынцыпе абазначалі яны расстрэл некалькіх асоб са спіскаў нарыхтаваных уласнай разведкай, зацверджаных вышэй. Часта смяротны прысуд быў спалучаны з канфіскацыяй маёмасці або спаленнем гаспадарства. У гэтым выпадку пра ход падзей вырашылі загады, агалошаныя ўжо ў часе акцыі Рамуальдам Райсам у студзені-лютым 1946 года. Вынікам гэтай акцыі было забойства трыццаці мужчын, раней выкарыстаных у якасці вазакоў пры транспарце аддзела, а таксама пацыфікацыя пяці-васьмі беларускіх вёсак, у ходзе якой пазбаўлена жыцця 47-53 цывільныя асобы, у іх ліку 16 дзяцей з немаўлятамі ўключна. Пяць асоб памерла пазней у выніку атрыманых раненняў, што ўзбуйніла лік смяротных ахвяр да 82-88 асоб. Акрамя гэтага 28-35 асоб былі ранены. Падпалы будынкаў знішчылі жыццёвы даробак многіх сем'яў, напрыклад у вёсцы Залешаны ўцалелі толькі два будынкі.

1 кастрычніка 1949 года пасля публічнага працэсу, які адбываўся ў памяшканнях кінатэатра „Тон" у Беластоку, вайсковы раённы суд прысудзіў Рамуальда Райса да смяротнага пакарання. Прысуд адносіўся да некалькіх дзясяткаў учынкаў, здзейсненых Райсам у 1945-1946 гадах, у тым ліку забойства вазакоў і пацыфікацыі беларускіх вёсак. У іншым працэсе былі засуджаны таксама да смяротнага пакарання намеснік Райса паручнік Казімір Хмялеўскі „Рэкін". Абодва яны былі расстраляны і іх целы пахаваны ў невядомым да сёння месцы. 22 мая 1991 года выйшаў закон, які ануляраваў прысуды асоб дзейнічаючых у карысць незалежнай польскай дзяржавы. Адзін з артыкулаў закона сцвярджаў, што калі ахвяраванае дабро было несуразмернае з дабром атрыманым або спадзяваным, калі дзеянне было несуразмернае да задуманага, тады прысуд не падлягаў ануляраванню. У 1995 годзе ў Ваяводскі суд у Беластоку паступіла заяўка сына Рамуальда Райса — таксама Рамуальда Райса — аб ануляраванні прысуду на ягонага бацьку; з такой жа заяўкай выступілі камбатанты ў справе „Рэкіна". Справа канчаткова трапіла ў суд Варшаўскай ваеннай акругі, які 15 верасня 1995 года поўнасцю ануляраваў абскарджаныя прысуды абодвум камандзірам. Суд не сумняваўся, што ўсе іх учынкі былі звязаны з дзейнасцю ў карысць незалежнасці Польшчы. Таксама, нягледзячы на тое, што было ахвяравана найвышэйшае дабро, якім з'яўляецца чалавечае жыццё, суд палічыў іх дзеянні суразмернымі з атрыманым дабром. Таксама суд палічыў суразмернымі метады, якія прымянілі камандзіры. Паводле суда загады камандзіраў былі апраўданы станам вышэйшай неабходнасці, што прымусіла іх да этычна сумніўных дзеянняў. У судовай пастанове апынуўся таксама вельмі цікавы казус, што змаганне падпольных атрадаў, дзеючых ва ўмовах шторaз большай падтрымкі для ўстаноўленага афіцыйнага грамадскага парадку, прымушала да дзеянняў тэрарыстычнага характару.

У 2005 годзе завяршылася некалькігадовае следства аддзела ІНП у Беластоку ў справе злачынства супраць чалавецтва датычнага забойства некалькіх дзясяткаў польскіх грамадзян беларускай нацыянальнасці праваслаўнага веравызнання са студзеня-лютага 1946 года; гэтае следства было пачата ў 1990-х гадах, а пасля на нейкі час спынена. Былі ўлічаны пратаколы допытаў 169 сведкаў, так ад сем'яў ахвяр, як і членаў атрада. Вядучы следства пракурор звергнуў аргументы, на аснове якіх Райс і Хмялеўскі былі апраўданы вайсковым судом. Расследаванне пацвердзіла асабістую адказнасць Рамуальда Райса за дзейнасць ягонага атрада. Пракурор не знайшоў ніякіх доказаў, што ахвяры тых дзеянняў прыналежалі да прыхільнікаў камуністычнага парадку; гэтая „прыхільнасць" вынікала толькі з папулярных стэрэатыпаў, якія раздзялялі „Буры" і яго жаўнеры. Метады дзеяння вынікалі з характару камандзіра атрада, а падборка ахвяр была накіравана на праваслаўных беларусаў, бо паводле меркавання членаў атрада гэтая група насельніцтва павінна была пакінуць Польшчу. Пра новую ацэнку гэтых падзей вырашалі дабро, на якое была накіравана атака ды спосаб дзеяння віноўнікаў. Сітуацыя, у якой апынуўся Райс, не стварала стану вышэйшай неабходнасці і не апраўдвала ахвяравання жыцця беларускіх сялян. Таксама ўплыў вайны на псіхіку партызан не з'яўляўся апраўданнем у святле вышэйшых юрыдычных норм, якіх мэтай з'яўляецца ахова найвышэйшага дабра — чалавечага жыцця. І нельга таго, што здарылася, апраўдваць змаганнем за незалежнасць польскай дзяржавы. Гэтыя забойствы мелі на мэце вынішчэнне часткі нацыянальнай і рэлігійнай групы, а значыць належалі яны да катэгорыі генацыду, да злачынстваў супраць чалавецтва. Аналізы і высновы пракурора ІНП поўнасцю падтрымаў Акруговы суд у Беластоку.

## Не мінула

У рамках парадкавання ваенных магіл у 1951 годзе астанкі забітых вазакоў, не ўсе, былі па загадзе тагачасных улад эксгумаваны з месца каля вёскі Пухалы-Старыя, дзе былі закапаны пасля забойства, і пахаваны на каталіцкіх могілках у недалёкай вёсцы Кліхі, дзе шмат гадоў пакоіліся ў ананімнай магіле. У 1972 годзе на магіле за дзяржаўны кошт быў пастаўлены помнік з надпісам, што там пакоіцца 25 жыхароў навакольных вёсак, ахвяр забойства рэакцыйнага падполля. Толькі ў 1994 годзе сем'і вазакоў даведаліся, дзе загінулі іх блізкія. Тады ж некалькі чалавек з сем'яў замардаваных вазакоў заснавала грамадскі камітэт, які паставіў сабе мэтай годнае ўшанаванне ахвяр, а канкрэтна — перанясенне астанкаў на ваенныя могілкі ў Бельску. Частка бяльшчан, якіх выказнікам сталася тамашняе аддзяленне Сусветнага звязу камбатантаў Арміі Краёвай, рэзка супрацівілася гэтай задуме, апасаючыся, што помнік мае быць узведзены дзеля працівагі польскім нацыянальным помнікам, услаўляючым гераізм народа ў змаганні за вольную і незалежную Польшчу. Так пачаўся другі раздзел справы вазакоў. Сваю заяву аб перанясенні астанкаў на ваенныя могілкі члены камітэта абгрунтоўвалі цяжкасцямі ў наведванні магілы ў Кліхах, што ў Бельску будзе гэта выгадна. Выбар ваенных могілак быў свайго роду імкненнем да ўзвелічэння іх ахвяр, да ўзвядзення іх у мясцовы пантэон, да прыдання ім таго рангу, які атрымалі польскія змагары. Калі, нягледзячы на пратэсты, астанкі вазакоў былі перапахаваны на ваенныя могілкі, была заініцыявана спроба памяншэння іх прэстыжу, м.інш. шляхам перадачы гэтай часткі ваенных могілак да камунальных. Аднак беручы пад увагу стаўленне ўплывовых палітыкаў магіла вазакоў асталася на ваенных могілках. Цяпер спрэчка засярodзілася на выглядзе помніка і змесце эпітафій на ім. Рашаючым было тут меркаванне Галоўнай рады аховы памяці змагання і пакут; усе іншыя чыноўнікі спасылаліся на меркаванне Рады. Рада рашыла, што эпітафія мае быць праўдзівай і не ранячай пачуццяў іншых асяроддзяў. Пачалася шматгадовая юрыдычная валакіта, дзе звароты грамадскага камітэта былі ўспрыманы рознымі дзяржаўнымі ўстановамі адмоўна. Пераломным было рашэнне Найвышэйшага адміністрацыйнага суда, які паставіў пад сумненне галоўны аргумент Рады аховы памяці і пакут. Паводле Рады змест эпітафій быў нязгодны з фактамі. У праекце камітэта прадбачвалася, што на помніку будуць не толькі прозвішчы забітых вазакоў, але і жыхароў пацыфікаваных вёсак; Рада згаджалася толькі на прозвішчы вазакоў. Змяшчэнне іншых прозвішчаў адняло б у помніка намагільны характар, а прыдало б яму характар сімвалічны; паводле Рады на ваенных могілках павінны быць толькі намагільныя помнікі. Найвышэйшы адміністрацыйны суд глянуў на гэтую справу інакш: засумняваўся, чаму эпітафіі сімвалічнага характару мелі быць асновай для адмовы захадам грамадскага камітэта. Да таго ж, паводле суда, меркаванне Рады не можа быць адзіным аргументам для рашэнняў іншых устаноў. Гэтыя сумненні асталіся без адказу; у ніводным рашэнні Рады не было яго абгрунтавання. Невядома таксама было, які законны акт з'яўляецца падставай для прынятага Радай прынцыпу. Але тут мае месца адна непаслядоўнасць. На гэтых жа могілках узніклі ў міжчасе розныя сімвалічныя помнікі, прысвечаныя асобам і падзеям, на аснове якіх можна скласці энцыклапедыю ўсёй гісторыі Польшчы. На ваенных могілках у Бельску пабудавана рознымі ўстановамі, без дазволу, г.зв. Катынскі помнік — польскую крыжовую дарогу, цэлы комплекс помнікаў, кранаючых падзей 1772-1989 гадоў. Усе яе элементы — чыста сімвалічныя. Устаноўленне Крыжовай дарогі на ваенных могілках у Бельску не было кансультавана з Ваяводскай управай у Беластоку і з ваяводскім камітэтам аховы помнікаў змагання і пакут. Звярнуў на гэта ўвагу грамадскі камітэт, падкрэсліваючы, што ніхто супраць гэтаму беззаконню не пратэставаў і не заўважаў, што закон быў парушаны. Журналіст беластоцкага „Кур'ера Паранняга" папрасіў ацэнку ў Адама Часлава Дабронскага, які ў палове 1990-х гадоў займаў пасаду загадчыка Ваяводскай управы па справах камбатантаў і рэпрэсіраваных асоб і асабіста меў дачыненне з гэтай справай: „Члены Камітэта сцвярджаюць, што пабудаваны на ваенных могілках Катынскі помнік — польская крыжовая дарога быў пастаўлены нелегальна". Адказ: „Вельмі мяне здзівіла б, калі б гэта аказалася нелегальным. У яго пабудову ўнесла свой пай таксама Управа па справах камбатантаў, якою я загадваў. На адкрыцці яго былі прадстаўнікі ўсіх галоўных палітычных сіл. На будову былі выкладзены дзяржаўныя, грамадскія, самаўрадавыя і прыватныя сродкі. Ёсць касцельны патранат. Дык як гэта можа быць нелегальнае? Можа не хапаць нейкай паперкі, але слова „незаконнае" — паводле мяне — не на месцы".

(працяг будзе)

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

## Маладыя «белавежцы»

У Цэнтры праваслаўнай культуры ў Беластоку па ініцыятыве раднага і братчыка Славаміра Назарука сарганізавалі сустрэчу тутэйшых пісьменнікаў з чытачамі. У гэты раз прадстаўлены былі наймалодшыя сябры Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа» Кацярына Сянкевіч, Юстына Каролька і Юрка Буйнюк. Не хапала асобы і твораў яшчэ адной вельмі таленавітай аўтаркі Віялеты Нікіцюк-Пэркоўскай, якой кніга яшчэ не выйшла, хаця друкаваліся яны м.інш у часопісе «Тэрмапілы» і ў іншых выданнях, але яе творы таксама прагучалі. Сустрэчу вяла прафесар Галіна Тварановіч, паэтэса і літаратуразнаўца, таксама сяброўка і аўтарка БЛА «Белавежа». Літаратары чыталі свае вершы, таксама адказвалі на пытанні прысутных, а на канец прагучала некалькі запісаных песень Юркі Буйнюка. Маладыя аўтары-«белавежцы» — майстры на ўсе рукі: Юрка Буйнюк займаецца таксама музыкай, Юстына Каролька — прафесійнай фатаграфіяй, а Кацярына Сянкевіч — жывапісам і тканінай (падобна як Яша Бурш — Янка Анісэровіч, адзін з пачынальнікаў беларускага сучаснага літаратуранага руху ў Польшчы — паэт-жывапісец). Маладыя аўтары маюць ужо свае зборнікі вершаў і працягваюць жыццё найстарэйшай у Польшчы дзейснай літаратурнай групы, сярод чальцоў якой ёсць таксама і маладыя крытыкі, як Ганна Альштынюк. Без пераемнасці пакаленняў у літаратурным аб'яднанні „Белавежа" не было б развіцця. Напрыклад, Кацярына Сянкевіч нарадзілася роўна праз 100 гадоў пасля нараджэння аднаго з першых белавежцаў — Антона Васілеўскага — «Антося з Лепля», які нарадзіўся ў 1891 годзе. Для такой групы стагоддзе — век сталасці. Маладыя аўтары прыйшлі на радасць старэйшым «белавежцам», гэта новае пакаленне, пакаленне ўнукаў ці нават праўнукаў «Белавежы».

Беларускае літаратурнае аб'яднанне «Белавежа» ўжо амаль 60 гадоў гуртуе вакол сябе творчыя асобы.

Вечарыну музычна ўпрыгожыў калектыў «Світанак», у якім спяваюць настаўніцы з дзіцячага садка № 14 у Беластоку, сярод якіх выступае адна з дачок «белавежца» Юрыя Баены.



Юстына Каролька, Кацярына Сянкевіч, Славамір Назарук і Юрка Буйнюк

Самы сталы сярод аўтараў — **Юрка Буйнюк**, аўтар трох зборнікаў. Месца нараджэння: вёска Малінніки Беластоцкага ваяводства. Скончыў аддзяленне беларускай філалогіі Універсітэта ў Беластоку. Друкаваўся ў часопісах «Тэрмапілы», «Дзеяслоў». Першай кнігай была «Самота дажджу» (Беласток, 2009). З дзяцінства з'яўляецца ніўскім аўтарам — пачаў друкавацца ў «Зорцы», з'яўляецца лаўрэатам конкурсу «Дэбют»: «Цяжка жыць беларусам на памежжы, дзе пранікаюцца дзве культуры і два менталітэты — усход і захад. Асабліва адчуваецца гэтае сутыкненне двух розных светаў тут, на Беласточчыне, дзе пражывае шмат культур, многа нацыянальнасцей і веравызнанняў. Тут кожны хоча падкрэсліць сваю тоеснасць, каб не затраціцца ў шэрым натоўпе большасці. Я пішу пра родную вёску, пра самавызначэнне, пачуцці, родную веру праваслаўе».

**Кася Сянкевіч**, паходзіць з Нарвы, што ў Гайнаўскім павеце, аўтарка двух зборнікаў: «Паэзія — гэта своеасаблівы від тэрапіі. Апошнія гады я пісала толькі пра свае ўласныя эмоцыі. Часам у гэты спосаб я вырашала свае ўнутраныя праблемы — калі запісала штосьці на паперы — то ўсё бачна, як на далоні. Калі я пішу вершы, я ўвогуле не звяртаю ўвагі на паэзію, якую чытала, я думаю толькі пра свае пачуцці, як пра адну сапраўдную рэч, якую я магу ведаць. Беларуская мова была першай мовай, якую я вывучыла, на якой размаўлялі мае продкі. Польскай я навучылася ў школе. Я хадзіла на ўрокі беларускай мовы, хаця яны не былі абавязковымі. Малая дзяўчынка ў душы, якая ўва мне не змяняецца, шчаслівая, калі яе разумеюць. Яна баіцца, што калі раскажа пра сябе праўду, то не знойдзе разумення, але мастацтва — гэта інструмент, які дазваляе прыцягваць падобныя душы. Асабліва беларуская. Я не друкуюся на польскай мове, хаця кожны верш мае польскую версію. Вядома, выказваць думкі лягчэй на мове, у якой ты расцеш і якой усе навокал карыстаюцца. Беларускія словы маюць першабытнасць першай пачутай у жыцці мовы. Быццам гэта словы маёй бабулі (святой памяці), якой мне так моцна не стае. Або маіх бацькоў. У мастацтве шукаю сувязі і з паэзіяй, і з Беларуссю, якая далёка ад Люблiна, дзе я цяпер вучуся. Ткацтва, якім я займалася ў мастацкім ліцэі, таксама вельмі адчувальнае ў маіх карцінах. Цікавіць мяне беларускі арнамент, яго сімволіка і нават міфалогія... Мае карціны гэта зусім не лёгкія замалёўкі, тут шмат змагання з палатном, тэхналагічных пошукаў. Гэтак жа я адчуваю свае вершы. Мой падыход да творчасці інтравертыўны — унутры сябе шукаю большасці адказаў на пытанні, у гукавой форме, каб можна было адначасова маляваць. Сапраўдная паэзія — твор, які нараджаецца з сапраўдных прычын. Ён патрэбны аўтару як паветра. Гэта жывыя пачуцці, думкі, якія разрываюць мозг, або эмоцыі, якія змогуць цэлы свет крануць, калі ў аўтара толькі ёсць такая патрэба. Гэта песня, якую ён паўтарае, каб пражыць хаця б найбліжэйшую, найбольш гарачую хвіліну».

**Юстына Каролька**, у дзявоцтве Грыцюк, нарадзілася ў Гайнаўцы ў 1982 г. Скончыла беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта Беластоцкага ўніверсітэта (2008). Пра Юстыну Каролька пісала сяброўка з «Белавежы» Віялета Нікіцюк-Пэркоўская: «Паэзія — гэта жанр літаратуры для адважных. Адчувальнасць на словы звязана з магчымасцю стварэння напружанасці, перадаць чытачу разнастайных эмоцый, а гэта хіба якасці, дадзеныя толькі выбраным. Адной з такіх «выбраных» з'яўляецца паэтка Юстына Каролька — аўтарка паэтычнага зборніка «Кроплі літар». Што ж у паэтычным кантэксце абазначае гэтае словазлучэнне «кроплі літар»? Паводле тлумачальнага слоўніка беларускай мовы: *кропля = капля, назоўнік, жаночы род, маленькая круглая часціца якой-небудзь вадкасці*, а як прыклады дадзена: *капля вады, капля дажджу*. А што з нашымі „кроплямі літар"? Можна інтэрпрэтаваць гэта так: кропля дажджу ў нас з'яўляецца метафарай літары. Кроплі твораць паток, літара — слова; паток — раку; слова — сказы. Рака можа ўлівацца ў мора або і акіян, а слова ў сваім руху можа стацца вершам, апавяданнем, або і раманам. Значыць, «кроплі літар» Юстыны Каролька — гэта не што іншае, як яе глыбокія думкі, выказаныя на пачатку яе паэтычнага самавыяўлення ў форме каротких вершаў-кропель». Юстына Каролька таксама «аўтарка» дзвюх дачушак.

Маладыя аўтары «Белавежы» вельмі розныя па характарах, адкрыцці на свет, і творы ў іх розныя па-змесце і форме. Радуе тое, што наймаладзейшае пакаленне сейбітаў роднага слова на роднай ніве не спыняе сваёй працы. Натхнення і спору!

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

## http://infographer.by

„Чым далей у лес, тым болей дроў" — кажа народная мудрасць. Гэта ў поўнай меры тычыцца і інтэрнэт-тэхналогій, у прыватнасці, вэб-дызайну. Будаўніцтва сайтаў усё больш адыходзіць ад першапачатковага дзялення галоўнай старонкі на дзве ці тры часткі, і карыстальнікам дэманструецца своеасаблівая мазаіка анонсаў-вышыцяў на тыя ці іншыя артыкулы і рубрыкі. Адным з прыкладаў такой мазаікі з'яўляецца сайт Infographer, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://infographer.by**.

Даны сайт не ёсць толькі інфармацыйным рэсурсам, а носіць, у першую чаргу, рэкламную нагрузку, прапануючы наведвальнікам замаўляць „крутую інфаграфіку". Разам з тым невядомыя ўладальнікі сайта Infographer называюць свой сайт візуальным часопісам. Ну а паколькі гэта часопіс, то там прадстаўлены артыкулы на розныя тэмы, аздобленыя пры гэтым візуальным суправаджэннем. Прычым практычна ўсе матэрыялы сайта з'яўляюцца замовай таго ці іншага СМІ на зададзеную тэму.

Нягледзячы на мазаічную стракатасць галоўнай старонкі сайта Infographer, уім засталося дзяленне на рубрыкі. Праўда, месцяцца яны не ўверсе ці з левага боку цэлага выяўлення, а ўнізе. „Грамадства", „Эканоміка", „Палітыка", „Культура", „На гарачае" — гэта тыя раздзелы, па якіх Infographer стварае і працягвае стварыць інфаграфіку для артыкулаў ці тэлевізійных сюжэтаў. Згодна з пададзенай на старонцы „Партнёры" інфармацыяй, замаўлялі там паслугі тэлеканал „Белсат", газета „Новы час", беларуская рэдакцыя „Радыё Свабода", сайт udf.by (адзінства, дэмакратыя, свабода).

Несумненна, што вышэйзаначаная замоўшчыкі строга падыходзілі да якасці выкананай сайтам Infographer прадукцыі, а ўладальнікі данага сайта стараліся сумленна аказаць паслугу для кліентаў, але ўсё ж такі не адбылося без маленькага недахопу, які адразу кідаецца ў вочы. Так, на галоўнай старонцы двойчы пададзены банер, што пазначае артыкул і адпаведна інфаграфіку пра крымінал у Беларусі. І двойчы наведвальнікі бачаць прапушчаную літару „с" у слове „Беларусь". Памылка, зразумела, не значная, але для тых, хто прапанае свае паслугі па візуалізацыі, недапушчальная, бо можа ўспрыняцца як нядбайнасць ці няўважлівасць пры выкананні замоў.

Разам з тым як „Крымінальная Беларусь", так і іншыя артыкулы, змешчаныя на сайце, вельмі цікавыя як па форме, так і па змесце. У прыватнасці, пра той жа беларускі крыминал мы можам даведацца, што забіваць і гвалціць у Беларусі сталі больш, „а статыстыка... палепшылася". „Цягам апошніх пяці гадоў злачынстваў у Беларусі рэгіструюць усё меней: у 2010 г. — 140 920, у 2014 г. — 93 932. Але калі ўчытацца ў статыстыку, сітуацыя выглядае не так аптымістычна", — распавядаецца ў артыкуле і інфаграфіцы, выробленай па замове тэлеканала „Белсат".

Цікавым з'яўляецца матэрыял пра Беларусь у люстэрку сусветных рэйтынгаў. „Час ад часу Беларусь выходзіць у топы. На жаль, гэтыя топы не датычаць «Краіны з самымі здаровымі людзьмі» альбо «Самай шчаслівай краіны свету». Першае месца па спажыванню алкаголю, чацвёртае па колькасці суіцыдаў, дзявятае ў дэградацыі заганнасці", — сцвярджаецца там. Акрамя таго, візуальна падаюцца даныя са спасылкамі на першакрыніцы пра 121 месца па асабістай свабодзе і 168 — па свабодзе слова.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

Дата з Календара

Генерал, адзін з айцоў БНР

## 70 гадоў з дня гібелі Кастуся Езавітава



Беларускі палітычны, грамадскі і ваенны дзеяч, публіцыст, перакладчык, педагог Кастусь Езавітаў нарадзіўся 17 лістапада 1893 г. у горадзе Дзвінск (цяпер Даўгаўпілс, Латвія). Паходзіў з сям'і кадравага афіцэра. У 1916 г. скончыў Віцебскі настаўніцкі інстытут і Паўлаўскае ваеннае вучылішча. Быў сябрам Беларускай сацыялістычнай грамады. У Першую сусветную вайну праводзіў актыўную асветніцкую працу сярод жаўнераў-беларусаў Паўночнага фронту. Быў абраны намеснікам старшыні Цэнтральнай беларускай вайсковай рады. У лютым 1918 г. стаў камендантам Менска. За ўдзел у працы І Усебеларускага кангрэса і дзейнасць па стварэнні беларускага войска ў студзені 1918 г. быў арыштаваны чэкістамі, але здолеў уцячы. Пасля адступлення бальшавікоў быў прызначаны камендантам Менска і Менскага гарнізона. 25 сакавіка 1918 г. быў у ліку тых, хто абвяшчаў БНР, уваходзіў у склад яе Рады. Займаў пасаду народнага сакратара па вайсковых справах (па сутнасці міністра абароны). У сакавіку 1919 г. прызначаны вайсковым камендантам Гародні. У 1919-1920 гг. Езавітаў быў кіраўніком вайскова-дыпламатычнай місіі БНР у Латвіі і Эстоніі. Наладзіў дыпламатычныя стасункі беларускага ўрада з урадамі Украіны, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Фінляндыі, звяртаўся з просьбай аб ваеннай дапамозе да ўрада ЗША. Праводзіў працу па арганізацыі беларускага войска, пошуку сродкаў на яго ўзбраенне і забеспячэнне. Арганізаваў пераход на службу БНР корпуса Станіслава Булак-Балаховіча. У траўні 1920 г. „за выдатную працу на карысць Беларускай Народнай Рэспублікі" атрымаў вайсковае званне генерал-маёра.

У 1921-1944 гадах жыў і працаваў у Рызе, узначальваў Беларускае нацыянальнае аб'яднанне ў сталіцы Латвіі. Дзякуючы Езавітаву, беларуская супольнасць тут сталася, бадай, найлепш арганізаванай за межамі БССР. Быў намеснікам старшыні таварыства „Бацькаўшчына" ў Латгаліі, узначальваў беларускае выдавецтва, таварыства беларусаў-выбаршчыкаў, беларускіх настаўнікаў, навукова-краязнаўчае таварыства. Быў кіраўніком Люцынскай беларускай гімназіі, якая выхавала многіх свядомых беларусаў. Браў удзел у Пражскай і Берлінскай палітычных канферэнцыях. Рэдагаваў газету „Голас беларуса" і часопіс „Беларуская школа ў Латвіі". За сваю нацыянальную працу ажно чатыры разы арыштоўваўся латвійскімі ўладамі (у 1924, 1930, 1933 і 1935 гг.).

У час Другой сусветнай вайны займаўся арганізацыяй у Латвіі беларускіх школ. На ІІ Усебеларускім кангрэсе быў абраны ў склад Беларускай Цэнтральнай Рады. У 1945 г. займаў пасаду вайсковага міністра ва ўрадзе БЦР. Езавітаў працаваў над адкрыццём беларускіх школ, займаўся парадкаваннем архіва БНР і яе навуковымі даследаваннямі.

Кастусь Езавітаў быў затрыманы савецкай контрвыведкай СМЕРШ у красавіку 1945 г. Паводле афіцыйнай версіі, памёр у час „следства" ад сухотаў і дыстрафіі 23 траўня 1946 г., паводле іншых звестак расстраляны ў засценках НКВД у Менску. Месца пахавання засталося невядомым.

Кастусь Езавітаў напісаў шэраг кніг і артыкулаў па гісторыі нацыянальна-вызваленчага руху, беларусазнаўстве — вядомыя яго працы „Беларусы ў Літве", „Беларусы ў Латвіі", „Беларусы і палякі", аўтар лірычных вершаў, укладальнік школьных дапаможнікаў. Меў багаты кнігазбор, падрыхтаваў да друку невядомыя раней творы Максіма Багдановіча.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Пераможцы першых месцаў сёлетняга XXXV Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі «Гайнаўка-2016» у Беластоку:

- **Парафіяльныя хары:** Хор Аўстралійска-Новазеландскай епархіі з Сіднея, дыр. Андрэй Лапцеў
- **Дзіцяча-моладзевыя хары:** «Радость» з Масквы, дыр. Таццяна Жданава
- **Аматарскія свецкія хары:** Хор Гданьскай палітэхнікі, дыр. Марыюш Мароз
- **Хары музычных вучэльняў:** Акадэмічны хор Расійскай акадэміі музыкі імя Гнесіных з Масквы, дыр. Дзмітрый Анегін
- **Прафесійныя хары:** Маскоўскі дзяржаўны акадэмічны камерны хор з Масквы, дыр. Уладзімір Мінін

**ХАРЫ-ЛАЎРЭАТЫ З БЕЛАРУСІ:**

- **ІІ месца (катэгорыя прафесійных хароў):** Дзяржаўны камерны хор РБ, дыр. Наталля Міхайлава
- **ІІ месца (катэгорыя парафіяльных хароў):** Народны камерны хор «Преображение» Барысаўскай дзіцячай музычнай школы мастацтваў і прыхода Раждаства Хрыстова-га, дыр. Сяргей Пракопчык
- **ІІІ месца exaequo (катэгорыя хары музычных вучэльняў):** Жаночы камерны хор Дзяржаўнага музычнага каледжа з Гродна, дыр. Ларыса Іконнікава
- **Вылучэнні (катэгорыя аматарскія свецкія хары)**: Хор студэнтаў Дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта «Cantus Juventae» з Мінска, дыр. Павел Шэпелеў

Усе вынікі на старонцы фестывалю на фейсбуку.

## Ніва" пісала і...

У „Ніве" № 12 ад 20 сакавіка гэтага года была мая заметка пад загалоўкам „Занядбаная плошча". Адносілася яна да непаладкаў на скверыку на далёкім ад цэнтра горада жыллёвым пасёлку Лясная Даліна ў Беластоку.

На вольнай плошчы жыхары пачалі пратоптваць сабе дарожкі напрасткі і накрыж. На сцежках пасля дажджу стаялі лужы ды было поўна балота. Тут некалі пачалі класці тратуарныя пліты. Пачалі ды пакінулі і не закончылі.

Ды вось пасля ніўскай крытыкі пасялковая „Wspólnota Mieszkaniowa" ў пачатку мая пабудавала шырокія тратуары і справе канец. Гэты факт мяне асабіста цешыць.

**(яц)**

## БАСу — 35 гадоў

**Усіх былых сяброў і прыхільнікаў Беларускага аб'яднання студэнтаў склікаем і запрашаем у Беласток 29 траўня. Сённяшнія БАСаўцы спадзяюцца, што старэйшыя сябры знойдуць час на сустрэчу і супольныя ўспаміны пры добрай музыцы гурта „Крама". Будзьма разам!**

БАС35

Bielaruskaje Abiadnannie Studentaŭ 1981-2016

35-годдзе Беларускага аб'яднання студэнтаў

нядзеля 29 траўня 2016 г. / гадзіна 15.00

Зміна Клімату (вул. Варшаўская 6, Беласток)

Пасля афіцыйнай часткі – канцэрт гурта:

Крама

35-lecie Białoruskiego Zrzeszenia Studentów

niedziela 29 maja 2016 r. / godz. 15.00

Zmiana Klimatu (ul. Warszawska 6, Białystok)

Po części oficjalnej – koncert grupy:

Krama

уваход вольны / wstęp wolny

## Адгаданка

1. негаваркі чалавек, 2. галоўны горад Баварыі, 3. аздоба з карунак або лёгкай тканіны ў зборкі на грудзях жаночай блузкі, 4. мястэчка на поўначы Ваўкавыскага павета, 5. „боская" гара ў Грэцыі, 6. горад між Крынкамі і Сухаволяй, 7. вялікае возера на ўсходзе Турцыі, 8. садовае дрэва з пладамі канічнага кшталту, 9. прылада неабходная ў ступе, 10. жыхарка вадаёма, 11. сумесь тлушчу з лекавымі сродкамі, 12. прозвішча нямецкага пісьменніка Арнальда (1887-1968) або аўстрыйскага Штэфана (1881-1942), якое ў арыгінале пачынаецца першай цотнай лічбай (*zwei*).

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

**(ш)**

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | | | | | | | 2 | | | |
| | | | 3 | | | | 4 | 5 | | | |
| | | 6 | 7 | | | | | | 8 | | |
| | | | | | | 9 | | | | | 10 |
| | | | 11 | 12 | | | | | | | |

**Адказ на адгаданку з 19 нумара**

Бах, вош, гета, мех, печ, сена, тэатр, улоў, шхуна.

Рашэнне: **Грэх не схаваеш у мех, не ўтопчаш у балота**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Артэміі Скалабан** з Саколкі і **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

## 29.05 — 04.06

**(22.03. — 20.04.)** У чэрвені зрабі акцэнт на духоўным ператварэнні. Гэта дазволіць пашырыць гарызонты ў сферы дзейнасці і асабістым жыцці. Усё дрэннае засталося ў мінулым, таму смела прыступай да адданай працы і плануй арыгінальныя праекты. Не выпусціце перспектыўных прапаноў, якія прыйдуць у чэрвені ад партнёраў з-за мяжы. Ідзі ў чэрвені па шляху, які пакажа табе ўплывовая асоба з блізкага атачэння. Хутка зразумееш, што гэта найлепшы выхад са становішча.

**(21.04. — 21.05.)** У чэрвені смела ўкараняй навінкі ў рабочую сферу. З грашыма праблем не будзе, таму можаш аддаць даўгі або ўзяць крэдыт. Начальства па заслугах ацэніць тваё майстэрства. Любоўны гараскоп прадказвае табе падарожжа ўдваіх. Сямейныя Быкі павінны больш трымацца ў пары. Звярні ўвагу на хранічныя захворванні, шпацыруй на свежым паветры і ўжывай вітаміны.

**(22.05. — 22.06.)** На працы будзе спакойнае становішча. Рэзкіх перамен у кар'еры не прадбачваецца. Фінансы будуць перыядычна паступаць і знікаць. Усё будзе залежаць ад практычнасці і рацыянальнасці. Пазнаёмішся з чалавекам, да якога паўстане шчырае пачуццё. Сямейны Блізнюк няхай не фліртуе на баку. Уключай разумны падыход у асабістым жыцці.

**(23.06. — 23.07.)** Каб дамагчыся поспеху, варта ў чэрвені працаваць самому, а не ў калектыве. Пазнаёмішся з уплывовым чалавекам, які дапаможа рушыць наперад у бізнесе. У асабістым жыцці яркіх змен не будзе. Не імкнуліся пастаянна высвятляць адносіны з партнёрам. Пакінь усё, як ёсць — час пакажа. Абмяжуй фізічныя і псіхічныя нагрузкі на арганізм.

**(24.07. — 23.08.)** Можаш без сумневаў звяртацца да начальства з патрабаваннем аб павышэнні зарплаты. Не адмовяць табе ў гэтай просьбе. Калі займаешся асабістым бізнесам, выдатна праявіш свае лідарскія якасці. Зрабі дарагі падарунак абранніку. У цябе з'явіцца жаданне аднавіць адносіны з былым. Падумайце, ці гульня варта свечкі. У чэрвені пачні барацьбу са згубнымі звычкамі.

**(24.08. — 23.09.)** Цяпер лепш не будуй планаў на будучыню. Што тычыцца грошай, то сітуацыя з імі будзе нялёгкай. Будзь больш ашчадным і займіся назапашваннем капіталу. У кватэры можаш зрабіць рамонт. Магчымы новы любоўны раман, які перарасце ў вялікае пачуццё. Каб не падарваць нервовую сістэму, варта больш расслабляцца і адпачываць.

**(24.09. — 23.10.)** Варта стаць ініцыятыўным і заняцца павышэннем майстэрства. Фінансавы бок жыцця знаходзіцца ў напрузе, таму не марнуй збярэжэнняў на глупствы. Калі ў цябе ёсць каханы чалавек, вырашыся ўзаконіць адносіны. Сямейным Шалям рэкамендую звярнуць увагу на паводзіны і вучобу дзяцей. У плане здароўя асаблівых праблем не будзе. Але ўразлівымі будуць страўнік і горла.

**(24.10. — 22.11.)** Працуй якасна, а не хутка. Тады поспех не прымусіць сябе доўга чакаць. Адкладзі фінансы на адпачынак. Звадзі абранніка на канцэрт, у тэатр ці на іншае культурнае мерапрыемства — гэта вельмі ўмацуе вашы адносіны. Здароўе будзе выдатным, калі станеш правільна і па рэжыме харчавацца. Еж больш садавіны і гароднін.

**(23.11. — 22.12.)** З'ездзіш у дзелавую камандзіроўку. Калі начальства адправіць цябе на вучобу, то няварта адмаўляцца. Працуй у камандзе толькі з тымі партнёрамі, якім давяраеш. Інакш не пазбегнуць махлярства. Можаш у чэрвені заключыць шлюб — ваш саюз абяцае быць шчаслівым і трывалым. Часцей размаўляй і дапамагай пажылым сваякам.

**(23.12. — 20.01.)** Не марнуй грошай на ўсё, што ўбачыш у краме, бо гэта пагражае фінансавым крызісам. Праяві актыўнасць у калектыве. У любві будзе цудоўны перыяд, калі абое захочаце акунуцца ў далёкае мінулае і ўспомніць сваё першае спатканне. Больш адпачывай, інакш нервовая сістэма сур'ёзна пацерпіць.

**(21.01. — 19.02.)** Ты даўно марыў адкрыць сваю справу. У чэрвені на гэта дакладна вырашышся. Правільна зробіш, гэта прынясе табе задавальненне і прыбытак. У калектыве магчымыя канфлікты, якія лёгка пераадолееш. Можаш зрабіць абранніку прапанову, сужонства абяцае быць доўгім і шчырым. Калі плануеце нарадзіць дзіця, то пачынайце лячэнне і ўмацаванне арганізму.

**(20.02. — 21.03.)** Не варта цяпер табе ўкладваць грашовыя сродкі ў якое-небудзь прадпрыемства. На працы абвостранае становішча, таму будзь больш адказным і ўпэўненым у рашэннях. Будзь у адносінах да мілага больш шчодрым і чулым. Не адмаўляй парады і дапамогі дзецям. Фізічныя практыкаванні дазволяць умацаваць арганізм, а вітаміны — імунітэт.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**




# У палескай глыбінцы (44)

— А вы можа мужыкамі гандлюеце? — спытала мяне гандлярка на рынку ў Камені-Кашырскім.

— Як мужыкамі?

— Ну, каб набраць на работу ў Польшчу.

Гандлярка не магла зразумець, што ў іх Камень-Кашырскі можна сабе прыехаць без гандлёвага інтарэсу. Тым больш, што ў якасці агентаў, якія вышукваюць ахвотных працаваць на будовах, прыязджаюць жанчыны. Звычайна гэта ўкраінкі, якія выйшлі замуж у Польшчы. Яны ведаюць мову і дзе найбольшае беспрацоўе, там людзі самі шукаюць кожнай магчымасці падзарабіць. Усё разумеюць і пагаджаюцца працаваць нелегальна, без страховак, медыцынскай апекі.

— Мая дачка ездзіла да вас «на цяпліцы», — кажа гандлярка. — Яна працавала пры памідорах. Дзесьці пад Люблінам. Ад пятай раніцы да шасці вечара, усё на нагах, ледзь паспявала адрабіцца. На памідоры глядзець не можа, так абрыдлі. Ну, зарабіла свае грошы. Адзенне купіла. Але ўжо не хоча ехаць у Польшчу. Надта цяжкая там праца і заробак не надта вялікі. А мужыкі — яны большыя рызыканты і рабацягі. Кожны другі на сваёй машыне ад вас вяртаецца!



* * *

Хоць Камень-Кашырскі не за гарамі, дакладна трыццаць хвілін язды на поўнач ад Ковеля, дык ён як з іншай планеты. Нібыта звычайны раённы цэнтр, ізаляваны як усе палескія мясціны бездарожжамі. Аднак калі хто трапіць сюды з дарогі, не можа надзівіцца энергіі гэтай мясціны, якая існуе сама па сабе, быццам аазіс на пустыні...

— Што трымае нас пры жыцці? — разважае Вера, уласніца гасцініцы, размешчанай над магазінам «Люкс». — Гэта гандаль, гандаль і яшчэ раз гандаль.



Вера — бізнесвумен сярэдняга ўзросту — рашыла асабіста паказаць свой Камень-Кашырскі. Прагулку па начным, не засынаючым да раніцы гарадку, мы здзейснілі на шыкоўнай машыне спадарыні Веры. Найперш у начным святле мы паглядзелі новыя прыватныя камяніцы ў цэнтры. Ніжнія паверхі новых прадпрымальнікаў займалі магазіны. Крыху далей мы абмінулі рынак, якія цягнуўся бясконцым лабірынтам і вызначаў сэрца Каменя. Рынак, як не цікава, працуе ад панядзелка да панядзелка, з тым што ў нядзелю яго «гаспадарамі» з'яўляюцца беларусы.

— Яны прыязджаюць да нас не толькі са сваімі таварамі, — паясняе Вера. — Яны шукаюць ахвотных на працу ў Беларусі. Асабліва вясной, калі пачынаецца праца ў сельскай гаспадарцы, у цяпліцах. На працу наймаюцца пераважна людзі з навакольных сёлаў. Чаму якраз едуць у Беларусь, а не ў Польшчу? Бо Беларусь ніякая заграніца! І там колькі паабяцаюць, столькі заплацяць...

Непадалёк рынку мы мінулі новы аграмадны Дом малітвы. У мястэчку працуе яшчэ касцёл, праваслаўная ўкраінская царква Кіеўскага патрыярхату...

— Аднак найбольш тут праваслаўных, — Вера мае на ўвазе вернікаў прыналежных да Маскоўскага патрыярхату. Год таму, дакладна на Благавешчанне, царква згарэла.

— Ці зараз людзі сталі хадзіць на багаслужбы да ўкраінскай царквы? — пытаю.

— Ніхто не пайшоў, — кажа Вера.

— І як вырашаеце праблему?

— Людзі едуць у сяло, у Волю. Не хочуць мяняць веры.

* * *

— Вера адвезла нас у самы прэстыжны рэстаран, які, нягледзячы на позні час, працаваў поўным ходам. У белай зале, прыаздобленай штучным мармурам і ружовымі драпіраванымі заслонамі, выседжвалі шаснаццаці-васемнаццацігадовыя дзяўчаты ў модных сексоўных суконках. Яны папівалі ружовае віно з танканогіх келіхаў і з нейкай надзеяй спазіралі на дзверы. У зале, быццам у якім вулеі, грымела папса, паспяхова выбіваючы ўсе думкі з галавы. Месца напамінала беластоцкую «Сантану» ці нешта падобнае, што ажывала толькі і выключна ў начную пару. Стравы і напіткі, якія тут прапанавалі, былі свежыя, смачныя і недарагія (вядома, на польскую кішэню).

Тут таксама было відавочна, што ў Камені-Кашырскім увесь свет круціцца вакол гандлю.

— Dzień dobry paniom! — павіталіся, нягледзячы на познюю пару, нейкі асобені — адзін старэйшы і двух маладзёнаў. Мужыкі, знюхаўшы свежую кроў, селі пры суседнім століку ды адразу ўзяліся за справу, пытаючы ці не адчуваем сябе надта самотна ў іх горадзе.

— Пайшлі прагуляцца па цэнтры, — прапанавалі мясцовыя донжуаны...

(працяг будзе)

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК



# XIX

## Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

**Рэдакцыя „Нівы” і Беларускі саюз Рэспублікі Польшча абʼяўляюць XIX Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы. У конкурсе будуць разглядацца працы грамадзян Польшчы на беларускай мове.**

**ПРЫНЦЫПЫ ЎДЗЕЛЬНІЦТВА**

**1.** Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых групах:

— I група: дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій,

— II група: астатнія ўдзельнікі (выключна аўтары, якія не зʼяўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

**2.** У рамках груп конкурс праводзіцца ў дзвюх катэгорыях: паэзіі і прозы.

**3.** Конкурсныя працы, набраныя на кампʼютары або разборліва рукапіс у двух экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — абʼёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і пасласць на адрас: Redakcja „Niwy”, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok 2, skr. poczt. 84 з прыпіскай на канверце: XIX Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

**4.** Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такім нумарам групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

**5.** На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

**6.** Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

**ТЭРМІНЫ**

**1.** Тэрмін дасылання да 31 кастрычніка 2016 г. (вырашае дата паштовага штампа).

**2.** Вынікі конкурсу будуць абʼяўлены ў лістападзе 2016 г.

**3.** Уручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел.

Конкурс праводзіцца дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі.

ISSN 0546-1960